Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 24 (4722) 21 чэрвеня 2013 г.

## Пункціpам

✔ Учора Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка выступіў на XV Сусветным кангрэсе рускай прэсы, які праходзіць у Мінску. Гэта традыцыйная сустрэча кіраўнікоў і журналістаў СМІ Расіі, рускамоўнай і замежнай прэсы, накіраваная на абмеркаванне актуальных пытанняў.

✔ Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага мастака Беларусі Гаўрылу Вашчанку з 85-гадовым юбілеем. «Ваша творчасць — гэта сапраўдны мастацкі летапіс Беларусі. З глыбокім патрыятычным пачуццём і майстэрствам Вы ўвасобілі ў сваіх палотнах падзеі гістарычнай мінуўшчыны і сучаснага жыцця Радзімы, простыя, велічныя і прыгожыя вобразы нашых землякоў», — гаворыцца ў віншаванні. Аляксандр Лукашэнка таксама адзначыў вялікі ўклад Гаўрылы Вашчанкі ў выхаванне маладых мастакоў.

✔ У Інстытуце філалогіі Кіеўскага нацыянальнага ўніверсітэта імя Тараса Шаўчэнкі пры падтрымцы пасольства Беларусі ва Украіне адбылося ўрачыстае мерапрыемства, прысвечанае прысваенню Цэнтру беларускай мовы і культуры імя Уладзіміра Караткевіча. У мерапрыемстве ўзялі ўдзел першы намеснік міністра замежных спраў Беларусі Аляксандр Міхневіч, намеснік міністра фінансаў Беларусі Іван Шунько, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ва Украіне Валянцін Вялічка.

✔ Дні нацыянальнай культуры Беларусі прайшлі ў Фінляндыі 18 — 19 чэрвеня. Фінскаму гледачу былі прадстаўлены творчыя калектывы і музеі Беларусі. У прыватнасці, жыхары і госці Хельсінкі ўбачылі спектакль студыі «ТрыТформаТ», выстаўку кніжных навінак выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», прэзентацыю музея-запаведніка «Нясвіж», выстаўку «Над Іматрай» з фондаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.

✔ Адбылася сустрэча Пасла Беларусі ў Францыі Паўла Латушкі і намесніка Міністра культуры Беларусі Васіля Чэрніка з беларускім оперным спеваком Аркадзем Валадосем і беларускім музыкантам, кампазітарам Георгіем Сасноўскім, якія пражываюць у Парыжы. Абмеркаваны праекты, якія плануецца рэалізаваць у Францыі пры дапамозе прадстаўнікоў беларускай дыяспары. На кастрычнік 2013 года запланаваны шэраг канцэртаў Нацыянальнага аркестра Нансі пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Міхаіла Казінца ў Францыі, Германіі, Бельгіі і Люксембургу. Абмеркаваны таксама пытанні арганізацыі ў 2014 годзе выступленняў у Францыі маладых беларускіх выканаўцаў.

✔ 20 — 21 чэрвеня ў Мінску праходзіць XXVIII пасяджэнне Савета па культурным супрацоўніцтве дзяржаў — удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Члены Савета абмяркоўваюць стан і перспектывы культурнага супрацоўніцтва на прасторы Садружнасці, праекты палажэнняў аб наданні статусу базавай арганізацыі ўстановам культуры і мастацтва краін СНД. Так, сярод іншых прапануецца надаць Нацыянальнаму гісторыка-культурнаму музею-запаведніку «Нясвіж» статус базавай арганізацыі па кірунку «Музейная справа».

**Падрыхтавала**
**Ярына РЫТАМІНСКАЯ**





Фота Яўгена Пясецкага, калаж Віктара Калініна

# Напрамак — паўночны ўсход

Завяршылася кола вандровак Саюза пісьменнікаў Беларусі па рэгіёнах краіны — ініцыятыва, выказаная ў свой час Прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам. За паўтара года пісьменнікі наведалі ўсе 6 абласцей. Апошняй стала Віцебшчына. Усцешна, што ў якасці галоўнага выніку эпапеі напрошваецца накід перспектывы.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

Перадусім хацелася б выказаць шчырую падзяку прадстаўнікам Міністэрства інфармацыі і Міністэрства культуры, якія клапаціліся пра маршруты і іх арганізацыю. Выпрацоўка пэўнага фармату паездак — вялікая справа. Уявіце, прыкладам, розніцу. Варыянт першы: пасля трох гадзін аўтобуснага шляху вас прывязуць у аблвыканкам і там, як кажуць, «загрузяць паказчыкамі». Варыянт другі: на паўдарозе пазнаёміць з мемарыялам памяці спаленай вёскі — так адбылося на Віцебшчыне. Мала хто ведае (у тым ліку пісьменнікі, нават тыя, хто піша на ваенную тэму), што ля шашы за Бягомлем увасобленая ў помніку невялічкая вёска Шунеўка, жыхары якой знянацку былі знішчаныя карнікамі майскай раніцай 1943 года. Шунеўскі мемарыял адметны тым, што ён... гаворыць. Наведвальнік чуе вясковыя ранішнія гукі, будзённы клопат жыхароў. Хтосьці на ганку збівае масла, той кляпае касу, той варушыць сена... Пеўні спяваюць. Прыходзіць вайна, з ёй — іншыя гукі. Брэх сабак, нямецкая лаянка, крыкі жаху... Гукі жалобы і роспачы... Што тут з мемарыяльнай тэатралізацыі і што — з рэальнага ўражання пакуты, агіды, пратэсту? Такая сённяшняя Шунеўка, і хто скажа, што яе няма?.. (Не дзіўна, што праз некалькі дзён пасля пісьменніцкай вандроўкі ў рэдакцыю «ЛіМа» прынеслі верш, прысвечаны тым падзеям.)

Мікалай Чаргінец: «Вялікі дзякуй такім маленькім паселішчам, якія зберагаюць памяць пра вайну і нібы адказваюць на наша пытанне: а што яшчэ пра яе пісаць?..» Старшыня Саюза пісьменнікаў заўважыў, што кранальнае дэталёвае ўвасабленне трагедыі магчымае на месцы менавіта сціплых, камерных помнікаў, убаку ад вялікіх шляхоў і натоўпаў. Калі так, неўзабаве кожны рэгіён можа сімвалічна адрадзіць свае «Шунеўкі» — памяць пра загінуўшых, напамін нашчадкам, сведчанне нацысцкага вандалізму, які не павінен — нідзе і ніколі — пусціць парасткі зноў.

Як вы думаеце, з якім настроем успрымаліся далей дагледжаныя палі і вёскі на шляху ў абласны цэнтр і «чарговы» аблвыканкам?

Віцебск, канечне, з'ява і сама па сабе, і ў досведзе кожнага: на ўласныя вочы можна пабачыць метамарфозу пераўтварэння звычайнага горада ў культурную сталіцу і буйны эканамічны цэнтр. Знакаміты «Славянскі базар» — далёка не адзіная «візітка» Віцебска і Віцебшчыны. Тут рэгулярна ладзяцца іншыя міжнародныя фестывалі: форум сучаснай харэаграфіі, у Паставах — свята народнай музычнай творчасці «Звіняць цымбалы і гармонік». Свой чарговы 9-дзённы фестываль марыць правесці ў Віцебскім амфітэатры расійскі КВЗ — у жніўні бягучага года. «Дробязь, але прыемна», — праз такі выраз намесніка старшыні Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта Уладзіміра Цярэнцьева і ўявіш сённяшні статус горада і вобласці!..

Заканчэнне чытайце на стар. 2

# Напрамак — паўночны ўсход

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

А яшчэ ж ёсць мастацкая школа і арт-цэнтр імя Марка Шагала, два сучасныя ўніверсітэты: медыцынскі ў Віцебску і Полацкі (іх наведалі пісьменнікі-вандроўнікі). Эканамічныя гранды: «Марка» і «Белвест», Аршанскі льнокамбінат, «Нафтан» і «Палімір». На берагах шматлікіх (тры тысячы!) азёр і азяркоў — багатая санаторна-курортная сетка. Кажуць, ваду з адной з крыніц Ушаччыны спажывала калісьці царская сям'я, і цяпер яна таксама лічыцца годнай альтэрнатывай такім брэндам, як вада Трускаўца або Моршына.

Пасля Віцебска-з'явы здавалася б: ну што той Наваполацк-навабуд? Але не ўсё так проста: калі ж мецьць справу з арганічнай забудовай — лагічнай (выклікана жыццём) і апантанай у працы-тварэнні, — адчуваеш сапраўдны камфорт і самы шчыры эмацыянальны ўздым, нібыта і ты да таго тварэння спрычыніўся.

Удзельнікі паездкі — амаль кожны — скарысталі магчымасць пабыць у «маладзевым горадзе», адчуць яго аўру і рытм жыцця. Наваполацк, па вялікім рахунку, — адна велізарная 10-кіламетровая вуліца. Нічога не зробіш: з аднаго боку — Дзвіна, з другога — «Нафтан», памерамі не меншы за сам горад. Іван Саверчанка спусціўся да ракі і раніцай у мэрыі спытаў, ці не плануецца акультурыць берагі. Высвятлілася, што ў планах не толькі гэта, але і горадабудоўля на іншым баку. Пасля таго, як давялося пранікнуцца цудам стварэння Горада на месцы пусткі, гэта ўразіла: трэба ж не толькі перакінуць масты, узвесці дамы, але і ўсю інфраструктуру стварыць! Узрушвае, што горад будзе расці на нашых вачах.

Сродкі — ад «Нафтана», адкуль жа яшчэ! І нават той, хто не вельмі цяміць у падрабязнасцях тэхналагічнага працэсу завода-гіганта (выпрацоўка з таннай вуглевадароднай сыравіны карыснага і каштоўнага бензіну), не мог не ўразіцца яго значэннем у эканоміцы горада і краіны, не мог не захапіцца шэдэўрам інжынернага майстэрства. Гэтае ўнікальнае збудаванне дае працу і дабрабыт амаль усяму статысячнаму гораду, дазваляе яму жыць перспектывамі, да таго ж стварае «падушку» энергабяспекі ўсёй краіны! Не ведаю, як хто, але фотаздымак на фоне дзвіжскага «Нафтана» я лічу не менш памятным і значным за зробленыя на Сене ці на Шпрэе.

Сімвалічна, што вандроўкі завяршыліся ў Полацку — калысцы беларускай дзяржаўнасці. Непаўторная аўра Полацкай Сафіі, сакральныя камяні царквы Святой Еўфрасінні, узвышаная ціш манастыра...

Адбыліся і творчыя сустрэчы: у Віцебскай гарадской цэнтральнай бібліятэцы і на гісторыка-філалагічным факультэце Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта. У абодвух выпадках — зацікаўленая аўдыторыя: бібліятэчныя супрацоўнікі, найбольш актыўныя чытачы, прафесарска-выкладчыцкі склад, студэнты-філолагі. Шкада, што ліміт часу агляднай вандроўкі не дазваляў наладзіць больш глыбокае выяўленне творчай асобы кожнага з удзельнікаў, перавесці сустрэчы ў фармат дыялогу. Са шкадаваннем на гэты конт выказваліся як госці, так і гаспадары.

Што ж, пачатак пакладзены: адгэтуль кожны творца больш ці менш уяўляе сваю патэнцыяльную аўдыторыю ў кожным рэгіёне, у кожным канкрэтным мястэчку і можа мэтанакіравана імкнуцца да сустрэчы. Да таго ж, зразумела, сустрэчы-дыялогі не павінны быць масавымі: два, тры, максімум чатыры пісьменнікі могуць дасягнуць сапраўднага кантакту з чытачом, адчуць адзін аднаго. І яшчэ: уявіўшы краіну цалкам і ў найбольш выбітных адметнасцях, можна цягнуць сваё карты з багатага веера сюжэтаў, герояў і тэм.



Фота Яўгена Пясецкага

**Іна ФРАЛОВА**

### Шунеўская цішыня

*Не абудзіць над вёскай цішыню*
*Ні крыкам пеўня, ні ахрыплым ветрам.*
*Яна аглухла ў дымную вясну,*
*Адчай схаваўшы пад маўчання нетры.*

*Падмуркі хат, што спяць, як курганы,*
*Агорне ціша стомленай салдаткай.*
*Маўчы, сусвет! Няхай дагледзяць сны*
*Малыя дзеткі, шчэ жывыя маткі.*

*Маўчыце, людзі! Хай паспяць яны…*
*Бо майскай раніцай, ад квету белай,*
*Згарэць УСЁ ў тым полымі вайны,*
*Як стос лістоты ўлетку адшумелай.*

# Барацьба з фірмамі-аднадзёнкамі

**Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка 5 чэрвеня падпісаў Указ № 257 «Аб асобных пытаннях арганізацыі і правядзення культурна-відовішчных мерапрыемстваў».**

**Таццяна ШЫМУК**

Дакумент накіраваны на ўдасканаленне практыкі арганізацыі і правядзення падобных мерапрыемстваў, стымулявання творчай дзейнасці айчынных выканаўцаў, падтрымкі маладых талентаў, абароны інтарэсаў гледачоў ад падману з боку нядобрасумленных арганізатараў.

Указам прадугледжваецца, што арганізатары абавязаны атрымаць пасведчанне на права арганізацыі і правядзення культурна-відовішчнага мерапрыемства на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь (гастрольнае пасведчанне) ва ўпраўленні ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі аблвыканкама (Мінскага гарвыканкама). Пры гэтым на канцэрты з удзелам беларускіх выканаўцаў гастрольнае пасведчанне будзе выдавацца бясплатна.

На мерапрыемствы з удзелам беларускіх і замежных альбо выключна замежных выканаўцаў гастрольнае пасведчанне выдаецца з выплатай дзяржаўнай пошліны (памер якой залежыць ад колькасці пасадачных месцаў у канцэртнай зале) у спецыяльны фонд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі.

— Увядзенне пасведчанняў на арганізацыю культурна-відовішчных мерапрыемстваў дапаможа адсекчы нядобрасумленных арганізатараў канцэртаў, — заявіў на прэс-канферэнцыі ў Мінску першы намеснік дырэктара ДУ «Палац Рэспублікі» Юрый Навумовіч. Паводле яго, правядзеннем канцэртаў у Беларусі займаецца мноства прыватных арганізацый і індывідуальных прадпрымальнікаў, якія, «не маючы ўяўлення пра гэтую дзейнасць, спадзяюцца хутка на ёй зарабіць», што, у сваю чаргу, «часта прыводзіць да падману гледачоў».

На думку начальніка аддзела дзяржаўных, спецыяльных і культурна-відовішчных мерапрыемстваў ДУ «Палац Рэспублікі» Максіма Прыхадоўскага, увядзенне гастрольных пасведчанняў дапаможа ўпарадкаваць гастрольную дзейнасць у краіне.

— Апошнім часам з'явілася досыць вялікая колькасць арганізатараў гастроляў, якія, заявіўшы тое ці іншае выступленне, пасля змяняюць склад артыстаў або ўвогуле адмяняюць канцэрт, — кажа эксперт. — Такія адмены адбіваюцца на даверы гледачоў да падобных мерапрыемстваў і, як вынік, на працы іншых арганізатараў, у тым ліку і на нашай.

Гастрольныя пасведчанні дзейнічалі ў Беларусі і раней, аднак у канцы 2010 г. былі адменены ўказам № 542 «Аб правядзенні культурна-відовішчных мерапрыемстваў» (пачаў дзейнічаць паведамляльны прынцып арганізацыі культурна-відовішчных мерапрыемстваў замест дазвольнага). Па словах Прыхадоўскага, у перыяд з 2010 па 2013 гады ў Беларусі з'яўляліся расійскія фірмы-аднадзёнкі, якія зачыняліся пасля правядзення аднаго мерапрыемства ці нават адразу пасля выпуску афіш. Такія фірмы ствараліся для адмывання грошай, лічыць эксперт. На яго думку, указ № 257 дазволіць пазбегнуць узнікнення ў Беларусі такіх фірм, павысіць адказнасць структур, якія займаюцца гастролямі артыстаў у нашай краіне.

У Мінску зарэгістравана каля 50 буйных арганізатараў культурна-відовішчных мерапрыемстваў, з іх дзяржаўных каля 10. Дзяржаўную пошліну за атрыманне гастрольнага пасведчання будуць плаціць толькі недзяржаўныя арганізатары культурна-відовішчных мерапрыемстваў.

Акрамя таго, Указам № 257 урэгуляваны пытанні рэкламы культурна-відовішчных мерапрыемстваў, рэалізацыі ўваходных білетаў і друкаванай прадукцыі, якая змяшчае інфармацыю пра мерапрыемства, вызначаны абавязкі і правы арганізатараў мерапрыемстваў і гледачоў. Указ пачне дзейнічаць з 1 верасня.

# Беларусь у Сусвеце

З 19 па 23 чэрвеня ў Беларусі праходзіць XV Сусветны кангрэс рускай прэсы. Яго арганізатары — Сусветная асацыяцыя рускай прэсы, інфармацыйнае агенцтва «БелТА» пры падтрымцы інфармацыйнага агенцтва «ІТАР-ТАСС», Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы, Міністэрства інфармацыі, Міністэрства замежных спраў і іншых органаў дзяржаўнага кіравання Рэспублікі Беларусь.

Дагэтуль падобныя кангрэсы праводзіліся ў Маскве, Сочы, Казані, Нью-Ёрку, Кіеве, Берліне, Баку, Сафіі, Парыжы ды ў іншых сталіцах і буйных гарадах свету. Ганаровымі гасцямі кангрэса ў розны час былі прэзідэнт Расіі Дзмітрый Мядзведзеў, прэзідэнт Украіны Леанід Кучма, федэральны канцлер ФРГ Герхард Шрэдэр, Генеральны сакратар ААН Кофі Анан, генеральны дырэктар ЮНЕСКА Каіціра Мацуура.

Праграмай Сусветнага кангрэса рускай прэсы прадугледжана правядзенне пленарнага пасяджэння ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, а таксама наведванне памятных месцаў — мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой», Белавежскай пушчы.

# Нашчадкам пераможцаў

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі аб'явіла літаратурны конкурс сярод дзяцей і моладзі.**

**Рыта СТАХ**

Конкурс прысвечаны 70-годдзю вызвалення г. Мінска і Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне і праводзіцца пры падтрымцы Камітэта па адукацыі Мінгарвыканкама і гарадскога аддзялення БРСМ. Журы, у склад якога ўваходзяць вядомыя пісьменнікі, вызначыць лепшыя творы і пераможцаў асобна ў кожнай з трох узроставых катэгорый: 10 — 14 гадоў; 15 — 18 гадоў; 19 — 25 гадоў. Работы конкурсантаў прымаюцца на беларускай або рускай мове (вершы, абразкі, замалёўкі, апавяданні, нарысы). Пераможцы будуць узнагароджаны дыпломамі Саюза пісьменнікаў Беларусі і падарункамі. Лепшыя творы плануецца выдаць асобнай кніжкай у серыі «Мінскія маладыя галасы». Прапануюцца наступныя тэмы: "Я люблю Беларусь", «Мы ўдзячныя вам, ветэраны», «Мы — нашчадкі пераможцаў», «9 мая — Свята Вялікай Перамогі», «Ганарыся горадам-героем Мінскам», «Я і мая Радзіма», «Гэта наша з табой Перамога», вольная тэма ваенна-патрыятычнага зместу.

Спаборніцтва праводзіцца да 10 чэрвеня 2014 года. Работы, набраныя на камп'ютары, трэба дасылаць на адрас: 220034, Мінск, вул. Фрунзэ, 5, пакой 308. Мінскае гарадское аддзяленне СПБ, з пазнакай «На конкурс».

У лісце неабходна ўказаць прозвішча, імя, імя па бацьку, дату і год нараджэння, адрас навучальнай установы ці месца працы, хатні адрас (з паштовым індэксам), кантактныя тэлефоны.

Пасля падвядзення вынікаў конкурсу ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі адбудзецца вялікае літаратурнае свята, на якое будуць запрошаны ўдзельнікі спаборніцтва для абвяшчэння і ўзнагароджання пераможцаў.

**Тэлефоны для даведак:**
335-28-18; 392-59-07; 392-59-06.

# Сербская ўзнагарода

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Сербія ад 12 лютага 2013 г. беларускі славіст, перакладчык, літаратуразнавец, доктар філалагічных навук, прафесар, акадэмік Сербскай Акадэміі навук і мастацтваў, акадэмік Міжнароднай Славянскай Акадэміі навук, адукацыі, мастацтва і культуры, загадчык кафедры славянскіх літаратур БДУ Іван Чарота ўзнагароджаны медалём «За заслугі». Узнагароду творцу ўручыў на гэтым тыдні Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Сербія ў Рэспубліцы Беларусь доктар Стоян Еўціч.

Пісьменнік сёлета адзначае 42 гады, як стаў славістам. У чэрвені 1971 года ён паехаў гідам-перакладчыкам з югаслаўскімі турыстамі. З таго часу ў Сербіі бываў каля 50 разоў, напісаў 96 кніг. Гэта пераклады, даследчыя працы, анталогіі (у тым ліку беларускай, сербскай паэзіі). Мае ордэн Святога Савы Сербскага (2004), Залаты знак Культурна-асветнага таварыства Сербіі (2008).

**Рына НОВАК**


## Ідзе падпіска на II паўгоддзе

*«ЛіМ» для індывідуальных падпісчыкаў:*

**1 месяц — 19 700 руб.**
Падпісны індэкс — 63856

*Ведамасная падпіска:*

**1 месяц — 49 000 руб.**
Падпісны індэкс — 638562

*Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў:*

**1 месяц — 12 500 руб.**
Падпісны індэкс — 63815

*Льготная падпіска для ўстаноў культуры і адукацыі:*

**1 месяц — 36 200 руб.**
Падпісны індэкс — 63880

# Святло, якое злучае стагоддзі

У Выдавецкім доме «Звязда» працягвае выходзіць кніжная серыя «Сугучча сэрцаў», якая прадстаўляе літаратуры краін СНД пасля 1991 года.

**Ігар ЛАЗОЎСКІ**




Новы томік «Сугучча сэрцаў: Беларусь — Азербайджан», складзены Алесем Бадаком, носіць назву «Шчаслівая сустрэча» і змясціў пад адной вокладкай творы пісьменнікаў Азербайджана і Беларусі. Ёсць у прадмове да зборніка і такія словы: «Азербайджанская літаратура — святло, якое дазваляе злучыць стагоддзі, якое дапамагае сцвярджаць духоўны пачатак у сённяшніх часах...» Дыялог з чытачом у кнізе «Шчаслівая сустрэча» вядуць азербайджанскія паэты і празаікі Чынгіз Аліоглу і Анар, Натыг Расулзадэ і Фікрэт Годжа, Эльчын Гусейнбэйлі і Гашам Наджафзадэ, Афаг Масуд і Эльхан Зал Карахаілы, Гюнель Анаргызы і Салім Бабулаоглу, Каміль Афсараглы і Гулу Агсес. Імёны сёння ў Беларусі ў большасці сваёй невядомыя. Хіба што Анар, старшыня Саюза пісьменнікаў Азербайджана, вядомы пісьменнік з пакалення шасцідзясятнікаў, дарэчы, сын паэта Расула Рзы, і Чынгіз Аліоглу, паэт, перакладчык, старшыня секцыі паэзіі Саюза пісьменнікаў Азербайджана, якога цяпер актыўна перакладаюць на беларускую мову (апошнім часам — публікацыі ў газеце «Літаратура і мастацтва», часопісе «Полымя»).

Кніга «Шчаслівая сустрэча» робіць пэўны прарыў у гэтай невядомасці. Чытач у Беларусі атрымлівае магчымасць убачыць зрэз, частку карціны ў развіцці сучаснай азербайджанскай літаратуры, адказаць на пытанні, куды рухаецца паэзія, якія рысы набывае азербайджанскі аповед?.. Напэўна, гэта важна і для беларускага літаратуразнаўства. З'яўляецца магчымасць параўноўваць. Добра, што кнігі серыі «Сугучнасць сэрцаў» пабудаваны такім чынам, што ў кожнай з іх прысутнічае беларуская літаратура. У азербайджанскай другую частку складаюць творы Уладзіміра Гніламёдава, Сяргея Трахімёнка, Святланы Яўсеевай, Васіля Ткачова, Алега Салтука, Алеся Наварыча, Навума Гальпяровіча, Анатоля Казлова і Уладзіміра Мазго. Таксама, заўважым, творы, напісаныя ў апошнія гады... Чытаем у прадмове да кнігі «Шчаслівая сустрэча»: «"Не большее, а многое в цене, // Когда цветок не различишь в букете, // но клевер полевой дороже мне, // Быть может, всех цветов на белом свете", — вялікая тэма бачыцца <...> у гэтых вершах Чынгіза Аліоглу: любіць сваё, роднае — вечная «мода», аснова асноў руху, накіраванасці ў развіцці, «у стварэнні». Але гэтая любоў захавае магчымасць прыносіць духоўную чысціню і светласць, калі родную канюшыну, родную кветку бачыш, адчуваеш у букеце іншых колераў і фарбаў...» Напэўна, да гэтага і дадаваць нічога не трэба. Проста параім чытачу разгарнуць кнігу «Шчаслівая сустрэча» і атрымаць асалоду ад новых адкрыццяў. А серыя «Сугучнасць сэрцаў» працягваецца. Ужо падрыхтаваныя кнігі, якія прадстаўляюць сучасныя літаратуры Казахстана, Украіны, Арменіі. Асобны том будзе прысвечаны літаратурам народаў Расіі.

# Грунтоўны дыялог

З 12 чэрвеня ў Мінску пабольшала на адну гарадскую скульптуру: бронзавае сямейства папоўніў «Дыялог» Канстанціна Селіханава.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

Скульптуру ўжо назвалі ўнікальнай па дзвюх прычынах. Яна першая ў сталіцы створана па замове прыватнай арганізацыі. Замоўца — ААТ «БелВЭБ». Паводле прэс-сакратара банка Людмілы Сац, ідэя эстэтызацыі тэрыторыі, прылеглай да цэнтральнага офіса «БелВЭБ», узнікла ў сярэдзіне 2012 года. Шукалі арыгінальныя ідэі, эксклюзіўнае мастацкае афармленне, прымальную форму, якая б гарманіравала са знешнім выглядам офіса.

Урэшце за працу ўзяўся вядомы беларускі скульптар Канстанцін Селіханаў, уладальнік звання «Мінчанін года», член Мінскага гарадскога мастацкага савета. Спадар Канстанцін цешыцца з незвычайнай формы скульптуры. Уласна кажучы, гэта і ёсць другая прычына яе ўнікальнасці. Скульптар адразу зазначыў, што нехта можа здзівіцца такой працы, а нехта скажа: «Даўно пара».

— Гэта скульптура — прынцыпова іншы погляд на рэчы, — упэўнены яе стваральнік. Канстанцін Селіханаў працаваў над скульптурай цягам шасці месяцаў. Работа ўяўляе з сябе двух людзей, якія моцна пацiскаюць адно аднаму руку. Кіраўнік банка БелВЭБ Павел Калаур патлумачыў: «Скульптура вельмі блізкая карпаратыўнаму духу нашага банка. І ў нашай справе, і ў сям'і заўжды лепей аддаваць перавагу дыялогу, але не спрэчцы ці жорсткім указанням другой палове. Яна сімвалізуе галоўныя якасці банка: адкрытасць і заўсёдную гатоўнасць да дыялогу з кліентамі».

Атрымаўся «Дыялог» грунтоўным: паўтары тоны вагой, вышыня — 2,6 метра і шырыня — 3,5 метра.

# Класічны open-air

З сённяшняга дня і па 23 чэрвеня ў загараднай рэзідэнцыі магнацкага роду Радзівілаў зноў будзе гучаць класічная музыка. У чацвёрты раз Нясвіж запрашае на традыцыйныя «Вечары Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў». Гэты творчы праект прадстаўляе нацыянальнае мастацтва ў сусветным гісторыка-культурным кантэксце.



Фота Міхаіла Несцерава

**Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ**

Месцам правядзення фестывалю опернага і балетнага мастацтва невыпадкова быў абраны Нясвіжскі замак. Менавіта тут у XVIII стагоддзі нараджалася беларуская оперная культура, з'явіўся першы прафесійны тэатр. Акрамя таго, дзякуючы «Вечарам Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў» у нашай краіне канчаткова замацавалася надзвычай папулярная на еўрапейскай прасторы традыцыя правядзення летніх фестываляў пад адкрытым небам. За тры гады існавання гэтае свята опернага і балетнага мастацтва набыло вялікую папулярнасць і стала адной з самых значных падзей тэатральнага сезона. У мінулым годзе канцэрты і спектаклі Вялікага тэатра ў Нясвіжы наведалі больш як чатыры тысячы чалавек. І калі ў 2010 годзе партэр ва ўнутраным дворыку замка Радзівілаў налічваў толькі 600 месцаў, то ў 2013-м — ужо паўтары тысячы, а гэта сведчыць толькі пра адно: кола прыхільнікаў класічнага мастацтва становіцца ўсё шырэй, і праводзіць час «культурна» — і цікава, і прэстыжна.

Адкрые сёлетнія «Вечары» 21 чэрвеня канцэрт вядучых салістаў оперы: народнага артыста Беларусі Уладзіміра Пятрова і дыпламанта міжнароднага конкурсу Таццяны Трацяк з удзелам струннага квінтэта «Серэнада», які адбудзецца ў Тэатральнай зале замка Радзівілаў. Крыху пазней Вялікі тэатр запросіць аматараў балета на легендарны спектакль «Лебядзінае возера» ва ўнутраным дворыку рэзідэнцыі Радзівілаў. Галоўную партыю Адэты-Адыліі выканае народная артыстка Беларусі Вольга Гайко, у ансамблі з ёй на сцэну пад адкрытым небам выйдуць Ігар Аношка, Дзяніс Клімук і Канстанцін Геронік.

Адно з галоўных месцаў у праграме «Вечароў Вялікага тэатра» традыцыйна займае нацыянальнае акадэмічнае музычнае мастацтва. Таму другі дзень фестывалю будзе цалкам прысвечаны творчасці беларускіх аўтараў. 22 чэрвеня ў Касцёле Божага Цела будуць гучаць творы айчынных кампазітараў-рамантыкаў XIX стагоддзя: Антонія Радзівіла, Яна Давіда Голанда, Станіслава Манюшкі і іншых (дырыжор — народная артыстка Беларусі Ніна Ламановіч), а на асноўнай сцэне ва ўнутраным дворыку замка будзе прадстаўлена галоўная прэм'ера юбілейная, 80-га сезона Вялікага тэатра — опера Дзмітрыя Смольскага на лібрэта Уладзіміра Караткевіча «Сівая легенда». Яркае і натхнёнае артыстычнае ўвасабленне класікі беларускага опернага мастацтва падорыць слухачам вядучыя салісты Вялікага тэатра Аксана Волкава, Анастасія Масквіна, Сяргей Франкоўскі і Станіслаў Трыфанаў.

Заключны дзень фестывалю адкрые бліскучая камічная опера «Рыта, альбо Пірацкі трохвугольнік» пад кіраўніцтвам дырыжора Івана Касцяхіна. Кульмінацыяй «Вечароў у замку Радзівілаў» 23 чэрвеня стане маштабны класічны open-air: у грандыёзным начным галаканцэрце возьмуць удзел оперныя і балетныя «зоркі» Вялікага тэатра Беларусі. Да сустрэчы ў Нясвіжы!

# За літаратуру!

**Валерый ГАПЕЕЎ**

Традыцыйна на Брэстчыне пры канцы мая — пачатку чэрвеня падводзяцца вынікі творчага спаборніцтва паміж рэдакцыямі сродкаў масавай інфармацыі. Брэсцкае аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі падключылася да правядзення спаборніцтва і заснавала шэраг намінацый.

Не сакрэт, сёння менавіта раённыя газеты застаюцца жыватворнымі крыніцамі роднай мовы, першай прыступкай для юных паэтаў і празаікаў. І важна, каб менавіта ў глыбінцы адносіны да творчай моладзі былі максімальна прыязнымі, каб «раёнка» давала першыя ўрокі, забяспечвала першыя публікацыі.

Не менш важнай застаецца роля газеты як агітатара і папулярызатара літаратурнай творчасці. Другі год рэдакцыі, якія найбольш праявілі сябе ў пошуку і падтрымцы юных аўтараў, у папулярызацыі літаратурнай творчасці, узнагароджваюцца спецыяльнымі дыпломамі Брэсцкага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Сёлета такія дыпломы атрымалі рэдакцыі газет «Народная трыбуна» і «Івацэвіцкі веснік».

## Абрысы

Адбылася сустрэча Пасла, Пастаяннага прадстаўніка Беларусі пры ЮНЕСКА Паўла Латушкі і намесніка Міністра культуры Беларусі Васіля Чэрніка з намеснікам Генеральнага дырэктара ЮНЕСКА па пытаннях камунікацыі і інфармацыі Янісам Каркліньшам. Беларускі бок ініцыяваў абмеркаванне пытання пашырэння прысутнасці дакументальнай спадчыны Беларусі ў рэгістры ЮНЕСКА «Памяць свету», а таксама абмеркаванне магчымасцей падачы беларускай заяўкі на атрыманне статусу «Сусветная сталіца кнігі — 2017».

Малады рэжысёр Аляксандра Шпартава атрымала на Міжнародным кінафестывалі «Залаты Віцязь» у г. Хабараўску галоўны прыз у намінацыі «Дэбют» за мастацка-дакументальны фільм «Давыд-Гарадоцкія каноны» — экранізацыю адной з навел Георгія Марчука. Гэта ўжо другая ўзнагарода рэжысёра, якую яна атрымала на міжнародных кінафорумах.

Вечарына паэтэсы, празаіка, кампазітара Таццяны Атрошанкі прайшла ў Маладзечанскім палацы культуры. Вершы выконвалі артысты тэатра мініяцюр «Брава», песні спявалі лаўрэат міжнароднага конкурсу аўтарскай песні ансамбль «Фіеста», дыпламант міжнароднага фестывалю «Славянскі базар» Яўген Славіч, папулярная беларуская спявачка Алена Бярэзіна ды інш. Заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Ірына Дарафеева прадставіла прэм'еру новай песні Т. Атрошанкі «Птушка шчасця».

Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы запрашае 24 чэрвеня адшукаць чароўную кветку папараці і сустрэць разам «Купальскую ноч у Купалавым доме». У праграме святкавання, якое пачынаецца а 19-й гадзіне, — гульнявіктарына «У пошуках папараць-кветкі»; «Спеўнае поле», дзе заспяваць з майстрамі зможа кожны жадаючы; майстар-класы па старадаўніх беларускіх танцах ад Студэнцкага этнаграфічнага таварыства; выступленне тэатра танца «ОтраженияЯ»; містычная дзея паводле твора У. Караткевіча «Казка чатырох чараўніц»; лазернае шоу. Акрамя таго, наведвальнікаў музея чакаюць майстар-класы па пляценні купальскіх вянкоў, фэйс-арт, нечаканыя падарункі ад музея Песняра.

# Тут дзівосы, там дзівосы




**Хто часцей расказвае казкі дзеткам? Пытанне гэтае, думаецца, з шэрагу рытарычных. Ці не кожны, асабліва не задумваючыся, адкажа, што гэта звычайна робяць матулі, бабулі, цёткі… Адным словам, прадстаўніцы прыгожай паловы чалавецтва. Тыя, каму, бадай, самой прыродай наканавана знаходзіць належны падыход да сэрцаў хлопчыкаў і дзяўчынак. Ці не па гэтай прычыне і ў кнізе «Падарожжа ў свет дзівосаў», укладзенай Паўлам Саковічам і выпушчанай выдавецтвам «Беларусь», годна выглядае менавіта жаночая казка. Зразумела, такое азначэнне шмат у чым умоўнае, але яно да месца. Адметна і тое, што творы гэтага жанру аднолькава цікавыя як у аўтараў, якія ўжо маюць значныя творчыя набыткі ў галіне дзіцячай літаратуры, так і ў тых, хто робіць у ёй першыя крокі.**

**Віталь ДЗЕНІСЕНКА**

Да апошніх адносіцца і Юлія Зарэцкая, якая хораша зарэкамендавала сябе кнігай гумару і сатыры «Шчаслівыя людзі», а таксама апавяданнямі з цыкла «Дунілавіцкія былі». З імі яна выступала ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», часопісах «Маладосць». «Полымя», «Нёман» і іншых выданнях, а цяпер яны ўвайшлі ў яе новую кнігу, што неўзабаве пабачыць свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Аказваецца, у Ю. Зарэцкай ёсць і на дзіва адметныя казкі.

Для кнігі «Падарожжа ў свет дзівосаў» яна прапанавала тры творы гэтага жанру. Героямі іх з'яўляюцца жывёлы, а калі канкрэтней — насельнікі заапарка. Усе яны даўно паспелі пазнаёміцца, знаходзяцца паміж сабой у сяброўскіх стасунках, таму і няма ў іх адзін ад аднаго асаблівых сакрэтаў. Дый радасцямі сваімі гатовы падзяліцца, у чым і пераконвае казка «Прывабны шалік». І зебра Мая, і мядзведзь Міхась, і ліса Аліса ў захапленні ад шаліка, які звязала жырафе Зіне яе мама. І раптам гэты шалік нехта скраў. Як высветлілася, пакпапілася на яго сяброўка Зіны — малпа Ліна, у чым, праўда, сама неўзабаве і прызналася.

Малпа Ліна — адна з гераінь казак «Небяспечны касцёр» і «Карысная знаходка». Дакладней, асноўнае дзеянне разгортваецца менавіта вакол яе. Істотна тое, што Ю. Зарэцкая не аднабакова падыходзіць да гэтай жыхаркі заапарка, паказвае яе характар у развіцці. Калі ў казцы «Небяспечны касцёр», як і ў «Прывабным шаліку», малпа Ліна паўстае не з лепшага боку — яна аказалася сярод тых, хто прапанаваў для сугрэву расклаcці касцёр (ад гэтага ледзь не ўзнік пажар), то ў «Карыснай знаходцы» першай заўважыла кімсьці згубленую кніжку «Правілы дарожнага руху», з якой і пачалі знаёміцца звяры.

Казка «Карысная знаходка», пры ўсіх мастацкіх вартасцях іншых твораў Ю. Зарэцкай для дзяцей, асабліва ўдалася аўтарцы. Ю. Зарэцкая знайшла цікавы падыход да тлумачэння пэўных правіл дарожнага руху. Насельнікі заапарка як бы прымерваюць іх на сябе. Напрыклад, адбываецца такая размова:

«— Ну-ну, а вось дакладна мае гарбы! — упэўнена сказаў вярблюд Гаўрыла. — Вунь — адзін, вунь — другі.

— Ох-ох-ох, — усміхнуўся слон Сямён, — гэта ж не гарбы, а знак "Няроўная дарога"».

Следам ідзе яшчэ адзін дыялог:

«— Зірніце, а вось гэта — я! — падляцеў бусел Якуб. І крылы, і хвост, як у мяне.

— Не, — ледзьве не зарагатаў слон Сямён, — гэта знак «Нізкалятаючыя самалёты»! А ты ж, Якуб, высока лятаеш!»

Гэтую казку Ю. Зарэцкай, несумненна, можна выкарыстоўваць і на ўроках, ды і ў пазакласным чытанні, знаёмячы вучняў з правіламі дарожнага руху.

Хочацца спадзявацца, што з цягам часу ў яе з'явіцца і іншыя казкі пра гэтых насельнікаў заапарка, якія складуць і самастойную кнігу. Канечне, самой Ю. Зарэцкай вырашаць, як яна будзе называцца, адно безумоўна: у той ці іншай ступені дзеянне павінна быць звязана з малпай Лінай, вобраз якой — творчая знаходка пісьменніцы.

Знайсці ж свайго, непадобнага да іншых, літаратурнага персанажа, як вядома, не так і проста. Відавочна і тое, што такія адкрыцці бываюць не толькі ў сталых пісьменнікаў, у чым пераканала Вольга Нікольская. Дарэчы, гэта рэдкі выпадак: яе аповесць-казка «Мы — агенты «Калбафір»…» за кароткі час вытрымала два выданні: спачатку ў рэдакцыйна-выдавецкай установе «Літаратура і Мастацтва», а потым у выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі». Кніга не толькі хутка разышлася, але і прадаецца на кніжным «чорным рынку» Расіі, хоць ні адно з названых выдавецтваў яе за межы Беларусі не адпраўляла. Што ж, звяртаецца ўвага на тое, што найбольш запатрабавана. Таму і кінастудыя «Беларусьфільм» прапанавала маладой пісьменніцы экранізаваць гэты твор. Праўда, з задумкі нічога не атрымалася: В. Нікольская праявіла прынцыповасць і адмовілася ўносіць у сюжэт змены, што парушаюць яе аўтарскую задуму. А тым часам на падыходзе ў яе новая кніга, што з'яўляецца працягам першай.

Прычына такой папулярнасці твораў В. Нікольскай найперш у тым, што яна знайшла сваіх герояў — катоў Колбаса і Кефіра. Цяпер з імі, а таксама з іншымі персанажамі можна пазнаёміцца і ў апавяданнях «Дым у лесе» і «Цукерка замест разеткі», што прадстаўлены ў кнізе «Падарожжа ў свет дзівосаў». Творы атрымаліся вельмі займальныя, захапляльныя і, зразумела, у меру дыдактычныя. У дзіцячай літаратуры, як вядома, інакш і нельга. У абодвух апавяданнях В. Нікольскай праводзіцца думка пра тое, што неабходна павадзіць сябе так, каб не ствараць небяспекі ні сабе ж самому. У першым са згаданых твораў пажар у лесе ўзнік праз тое, што двое маленькіх лісянят, знайшоўшы ў лесе запалкі, вырашылі з імі пагуляць. Запалілі адну, другую… Пажар давялося тушыць Колбасу, Кефіру дый іхняму сябру сабаку Рыжыку. А пасля на дапамогу прыйшлі і лясныя жыхары. У апавяданні ж «Цукерка замест разеткі» Колбас аказаўся катом здагадлівым, а перадусім дасведчаным. Паколькі шмат чытаў, то добра ведаў, што электрычнасць можа ўяўляць небяспеку. Таму, калі ўбачыў, што маленькі хлопчык Ванечка спрабуе засунуць металічныя пруткі ў разетку, адцягнуў яго ўвагу ад гэтага занятку.

Нямала радасці дзецям прынясе і п'еса-казка Таццяны Сівец «Брык і Шуся шукаюць лета». З гэтым творам многія хлопчыкі і дзяўчынкі, дарэчы, ужо знаёмыя: на сцэне Тэатра юнага гледача не першы год з нязменным поспехам ідзе аднайменны спектакль. Прывабнасць як самой казкі, так і яе сцэнічнага ўвасаблення ў тым, што аўтар, пішучы гэты твор, ні ў чым не паўтарыла іншых, пайшла менавіта сваім шляхам: арыгінальны сюжэт, арыгінальнае вырашэнне тэмы традыцыйнага сутыкнення дабра і зла. І, канечне ж, арыгінальныя персанажы, якіх не паблытаеш ні з якімі іншымі. Як ёсць адзіны Бураціна, адзіны Чыпаліна, ці, скажам, хлопчык Бульбінка Леаніда Прокшы, альбо Бульбобы Паўла Місько, так і Брык і Шуся — унікальныя героі, якія існуюць у адзіным экзэмпляры.

А яшчэ хацелася б звярнуць увагу і на тое, што Брык і Шуся — істоты хоць і казачныя, але адпавядаюць жыццёвай практыцы. А ў жыцці як бывае? Часам хто-небудзь знешне і непрыкметны, а колькі ў яго сэрцы дабрыні, душэўнай цеплыні. Як прыцягвае ён да сябе шчырасцю, адкрытасцю. Гэта датычыць і герояў Т. Сівец. Так, Брык — «нязграбная ўскудлачаная істота з растапыранымі лапкамі, якая смешна перавальваецца на крываватых ножках». Не такая ўжо сімпатычная і Шуся: «смяшлівая цікаўная мордачка з натапыранымі вушкамі». Але гэтыя персанажы не могуць не прываблівацъ да сябе, бо… Аднак лепей сам твор Т. Сівец прачытаць. Як і п'есу-казку Наталлі Марчук «Цётухна Праступа і Новы год», што таксама знайшла ўжо сваё сцэнічнае ўвасабленне і гэтаксама прываблівае арыгінальнасцю. Добра валодаючы сакрэтамі драматургічнага жанру, Н. Марчук усё дзеянне пабудавала так, што за ім нават дарослы чытач ці глядач сочыць з захапленнем. А што ўжо казаць пра дзяцей?! Гэта для іх сапраўды падарожжа ў свет дзівосаў.

З добрым веданнем дзіцячай псіхалогіі пішуць свае творы і пісьменнікі-мужчыны. У кожнага з іх ёсць нешта, чаго ў іншых не знойдзеш. У Генадзя Аўласенкі такое багацце творчай фантазіі, што ажно па-добраму зайздросціш яму. Алесь Бадак, Сяргей Давідовіч, Міхась Пазнякоў, Генадзь Пашкоў, Міхась Сліва дый некаторыя іншыя больш традыцыяналісты, аднак яны не паўтараюць тое, што было напісана раней, а заўсёды знаходзяць свой паварот тэмы. Васіль Шырко ў казках «Чароўная зямля» і «Шчасце» ідзе ад фальклорных матываў, але дае ім уласную інтэрпрэтацыю. Адметныя яго творы яшчэ і тым, што ў іх шмат досціпу, аўтар тонка адчувае меладычнае народнае слова.

А колькі непаўторнасці ў казках Паўла Саковіча «Цып-цып і Жоўцік», «Скразняк і Ната», «Самы-самы смачны яблык», «Як лісу перахітрылі». Усё гэта проза, а поруч змешчана паэтычная «Казка-загадка пра казлянятка». Што ж, цікавы пісьменнік — цікавыя і творы. Тым больш што ўсё гэта напісана нязмушана, з любоўю да дзяцей.

Чытаеш кнігу «Падарожжа ў свет дзівосаў» і неадназова ловіш сябе на думцы: не трэба нам прыбядняцца. Ёсць у нас годная дзіцячая літаратура, у тым ліку і сучасная. Ніхто не сцвярджае, што трэба, як кажуць, варыцца толькі ў сваім творчым саку. Пры неабходнасці можна сяму-таму павучыцца і ў пісьменнікаў іншых краін, у тым ліку і з так званага далёкага замежжа. Аднак ні ў якім разе нельга слепа капіраваць, падстройвацца пад іх. Магчыма, гэта ім неабходна знаходзіць такіх герояў, якія ёсць у творах беларускіх пісьменікаў.

На падобны момант звярнуў увагу ў прадмове да кнігі сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Георгій Марчук: «У наш час у інтэрнэце, ды і ў «мульціках» даволі часта сустракаюцца казкі, пабудаваныя на камедыйных прыёмах, у аснове якіх ляжыць відавочная недарэчнасць, на тэхнічных фокусах і труках. Нашы ж аўтары стараюцца пазбягаць штучнасці і казачных штампаў».

Прынамсі, гэта відаць па кнізе «Падарожжа ў свет дзівосаў», якая пераконвае ў тым, што дзівосаў навокал і сапраўды шмат, трэба толькі ўмець заўважаць іх. І пісьменнікі могуць дапамагчы ў гэтым хлопчыкам і дзяўчынкам.

# «Перабрадзіла цішыня…»




**Надзея СЕНАТАРАВА**

Кожны бачыў, як галіны дрэў вясной упрыгожваюцца мяккай, пяшчотнай, светла-зялёнай маладой лістотай. Урэшце настае такі момант, калі ўсе яны стаяць прыгожыя, пышныя. Падобна ў жыццё людзей уваходзіць паэзія. Вершамі «абрастаюць» цэлыя сем'і. Так здарылася і з сям'ёй Міколы Кутаса з Ілы, у якой вершы пішуць усе: гаспадар, жонка, іх сын. Паэзія ўваходзіць у жыццё чалавека нечакана і з цягам часу напаўняе ўсю яго сутнасць.

Давайце ўвойдзем у створаны Міколам Кутасам паэтычны свет яго новай кнігі «Размову з вераснем вяду».

Зборнік складаюць вершы на беларускай і рускай мовах, песні, пароды, прыпеўкі. Тэматыка творчасці не выходзіць за звыклыя межы: любоў да радзімы, прыгажосць роднай прыроды, інтымная лірыка.

Мова паэзіі М. Кутаса даволі простая, але большасць вершаў змястоўныя, павучальныя. З задавальненнем адзначу найбольш удалыя радкі, якія адлюстроўваюць хараство прыроды: «Каўнер з вільготнага туману // Зара прымервае штодзень», «Лета вось пчаліным роем // Зноў наведала мой сад»; «Ужо святлом маладзіковым // Перабрадзіла цішыня. // І пакідае ранак сховы, // Бо ён вястун улады дня. // Вяльможна сонца на абшары // Рассыпле промні, промні-мары... // Адвечная метамарфоза: // Камусьці — верш, камусьці — проза».

Трэба адзначыць, што сярод патрыятычных вершаў часам сустракаюцца і такія, якія не выклікаюць радасці адкрыцця. Быццам бы гэта ўсё ўжо некалі ў кагосьці іншага чыталася: «Беларуская зямля, ты Літвою звалася, // Годна ты ва ўсе часы за свой лёс змагалася, // Прыгажэеш з году ў год і здзіўляеш сілаю, // Шчасце маю быць з табой, родная і мілаю».

Тэксты песень, якія ўвайшлі ў кнігу, меладычныя. У іх аўтар таксама ўслаўляе Беларусь («Беларуская зямля — як акінуць позіркам. // Тут за полем — сенажаць, за ракою — возера…») і родную вёску.

Парадаваў неблагі ўзровень пародый, а прыпеўкі ад Міколы, напісаныя ў лепшых народных традыцыях, так і просяцца ў круг і пад гармонік.

Нямала ўдалых радкоў сустрэлася і ў рускамоўных вершах М. Кутаса: «Вот-вот подростком угловатым // Ворвётся в нашу жизнь апрель. // И наследит забытым ливнем, // Ускорит дней круговорот». Пэўная недасканаласць формы некаторых вершаў кампенсуецца іх зместам: «Вдруг окажется лучшим // День, который настал. // В наши глупые души // Лучик солнца упал»; «Жизнь — вокзал или сказочный бал, // Где сменяются годы и лица? // Но о главном никто не сказал, // Ещё главному нужно родиться».

Гэтая невялікая кніжка вершаў «Размову з вераснем вяду» атрымалася часам наіўнай, часам простай, але ўвогуле — змястоўнай і карыснай у нашым няпростым жыцці сваім аптымізмам, лёгкім гумарам, асэнсаваннем жыцця.

# У смарагдавым палацы

Літаратурная дзейнасць Сяргея Кавалёва — узорны прыклад паспяховай творчай біяграфіі. Паэт, празаік, крытык, драматург, літаратуразнаўца — гэтымі паважнымі азначэннямі вельмі часта намінуюць аўтараў адзінокай дысертацыі альбо рэдкіх публікацый у перыядычных выданнях. У выпадку С. Кавалёва ўсе гэтыя найменні будуць дарэчнымі, хаця натуральна, што не на кожным этапе свайго творчага шляху ён працаваў адразу ў пяці кірунках.



## ПАЭТ — І КРЫТЫК

С. Кавалёў прыйшоў у літаратуру з вершамі, але хутка кінуў іх друкаваць. У сваіх п'есах ён часта звяртаецца да паэтычных тэкстаў, пераважна напісаных іншымі аўтарамі, — ды толькі не выпадае адмаўляць у паэтычнасці аўтару «Маленькага анёлка», «Пясчанага замка» ці «Пана Твардоўскага».

Першай кнігай С. Кавалёва стаў зборнік казак «Мэва» (1988), а ўжо праз год пабачыла свет кніга літаратурна-крытычных артыкулаў "Як пакахаць ружу», прысвечаная беларускай паэзіі 80-х гадоў. Шэраг тэкстаў трапіў адсюль у чарговы зборнік «Партрэт шкла» (1991). Сабраныя тут творы падаюцца бездакорнымі: аўтар заўсёды разумны, праніклівы, тактоўны і стрыманы, побач з аналізам асобных твораў ён паслядоўна раскрывае праблемы пэўных жанраў ці сучаснага стану літаратуры.

Сёння С. Кавалёў далёка не самы «ўсюдыісны» крытык. Пры гэтым яго свежыя рэцэнзіі дэманструюць выдатную дасведчанасць у бягучым літаратурным працэсе і рэдкую здольнасць на сучасным узроўні разгледзець сучасны тэкст. Справа, магчыма, у тым, што вылучаныя С. Кавалёвым літаратурныя праблемы збольшага не вырашыліся дагэтуль, а перасыпаць адны і тыя ж крытычныя заўвагі некалькі дзесяцігоддзяў зусім не цікава. Сёння, як і дваццаць гадоў таму, можна пісаць пра «празмерную дыдактычнасць і вытлумачанасць ідэі, імкненне не пакінуць ніякіх цьмяных мясцін і шматсэнсавасці» ў літаратурнай казцы, пра «вузкія веды аўтараў» і «схільнасць да сімвалізацыі, эмблемаізацыі гістарычных асоб» у гістарычнай паэзіі, бясконца жахацца літаратурным стэрэатыпам — выніку «адной з самых моцных традыцый у нашай паэзіі — бестрадыцыйнасці», якая «нараджаецца ад наследавання ўсім і, адпаведна, нікому».

Асабліва ўражвае ў зборніку «Партрэт шкла» артыкул «Нулявая катэгорыя», прысвечаны праблемам чытача і кнігавыдання. «Што для нас зараз важней: зрабіць так, каб чатырохтысячны наклад знайшоў свайго рэальнага чытача ці зрабіць наклад васьмітысячным для чытача абстрактнага», — разважаў С. Кавалёў у 1991 г. Сёння такія лічбы, напэўна, падаюцца неверагоднымі нават для самых паспяховых пісьменнікаў: «змаганне за сваё рэальнае існаванне» атрымалася для нашай літаратуры не надта пераможным. Самым запатрабаваным родам беларускамоўнай літаратуры стала драматургія — і С. Кавалёў як добры аналітык, бадай, своечасова гэта зразумеў.

## РЭНЕСАНС У СУЧАСНАЙ ДРАМАТУРГІІ

Адметнасць С. Кавалёва як драматурга ў значнай ступені вызначаецца яго плённай навуковай дзейнасцю, дзе галоўным прадметам цікаўнасці з'яўляецца XVI стагоддзе. Гэты перыяд для большасці злучаны з постацямі Ф. Скарыны, М. Гусоўскага, С. Буднага — але С. Кавалёў не прытрымліваецца «традыцыі атаясамлівання беларускай літаратуры выключна з беларускамоўнымі тэкстамі» і зыходзіць з таго, што наша літаратура «на працягу многіх стагоддзяў была шматмоўнай і полікультурнай». Гэта дазваляе ўвесці ў беларускі культурны кантэкст шматлікія новыя творы і імёны — ад лацінскіх вершаў вандроўнага нямецкага паэта Яна Мылія да драматургіі езуіта Каспара Пянткоўскага, ад ананімнай рэлігійна-палемічнай паэмы «Апалагетык…» да першай у Рэчы Паспалітай энцыклапедыі, падрыхтаванай пінскім шляхціцам Янам Пратасовічам.

С. Кавалёў — адзін з найбуйнейшых беларускіх даследчыкаў свайго перыяду. Немагчыма ўявіць сучаснага студэнта-філолага, які не чытаў яго артыкулаў, — але навукоўца не абмяжаваўся шаноўнай ды нешматлікай аўдыторыяй цікаўных гуманітарыяў. Літаратура сама па сабе з'яўляецца выдатнай крыніцай натхнення, а вывучэнне літаратурных тэкстаў у шырокім культурна-гістарычным кантэксце — выдатная магчымасць зразумець пэўную эпоху. Вось і з'явілася памкненне «актуалізаваць у сучаснай тэатральнай культуры адметныя помнікі літаратурнай спадчыны, ажывіць забытыя сэнсы і значэнні»…

## ХАРАКТЭРНАЕ

Драматургія С. Кавалёва стала ўдзячным матэрыялам для разважанняў пра рэмэйк і інсцэніроўку, гістарычную п'есу і п'есу, створаную «паводле матываў». Праўда, сам аўтар неаднойчы зазначаў, што яго творы значна больш арыгінальныя, чым падаецца асобным інтэрпрэтатарам. Прыкладам, «Балада пра Бландою» і «Трышчан ды Ізота», напісаныя паводле матываў старабеларускіх рыцарскіх раманаў, — гэта універсальныя гісторыі пра здраду, каханне, помсту і смерць, дзе фон (гістарычны, сучасны ці фантастычны) мае не самае галоўнае значэнне. Так, «Балада пра Бландою» цікавая сваёй асноўнай праблемай: ці не лепш часам выявіць жаночую пакорлівасць лёсу, чым адстойваць права на шчаслівае каханне? У апошніх зборніках п'ес для дарослага гледача — «Навука кахання» (2005) і «Сёстры Псіхеі» (2011) — да рэмэйкаў можна аднесці выключна «Чатыры гісторыі Саламеі» і «Сёстраў Псіхеі».

С. Кавалёў таксама вядомы ўвагай да жаночых вобразаў, збольшага непрыкметных у нашай літаратуры. У склад любоўнага трохкутніка зазвычай уваходзяць галоўная гераіня і жанчына, якая знаходзіцца з ёю ў вельмі блізкіх (сваяцкіх) адносінах. Так, драматург вывеў з ценю гісторыі пляменніцу Францішкі Радзівіл Ганну Мыцельскую і сястру Барбары Ганну Радзівіл — што ўскладніла любоўныя калізіі праблемай унутрысямейных жаночых стасункаў.

Жанчыны ў п'есах С. Кавалёва не столькі моцныя, колькі дзейсныя: побач з Бландояй ці авантурнай Саламеяй безнадзейна закаханая Ізота, немаладая Францішка ці пакорлівая Псіхея выглядаюць значна больш сціпла. Тым не менш яны зусім не нагадваюць легкадумную Паўлінку са «Стомленага д'ябла»: гераіні апошніх твораў Кавалёва дастаткова разумныя і прадбачлівыя, каб уяўляць верагодныя наступствы рызыкоўнага ўчынку. Часцяком яны свядома ахвяруюць сваім шчасцем дзеля нечага большага — мары каханага, жыцця сястры.

Драматург зусім не належыць да безаглядных змагароў за феміністычныя ідэі: Бландоя ці Іфіда, якія прагнуць кахання, адукаваная і незалежная Ганна Радзівіл, настойлівая, празмерна прагрэсіўная Журналістка і нават каралева-ўладарка Ата ўвасабляюць безумоўнае зло. Эгаізм, разбэшчанасць, патуранне ўласным прыхамацям робяць выродлівымі і непрывабнымі як мужчын, так і жанчын. Каб стаць станоўчай гераіняй, зусім не абавязкова быць моцнай: дастаткова ўмення любіць і здольнасці да разумнай самаахвярнасці.

## ІНТЫМНЫ ДЗЁННІК БЕЗ ІНТЫМНАГА?

Самай скандальнай п'есай С. Кавалёва стаў «Інтымны дзённік»: відавочна не платанічнае каханне між героямі, зачытванне са сцэны апісанняў палавога акта… Нясціплыя ўрыўкі, якія прысутнічаюць у абедзвюх частках, у прынцыпе маюць сэнс: калі стагоддзе таму старонкі падручніка па анатоміі маглі шакіраваць ліцэіста, то сёння значна больш падрабязныя і свабодныя тэксты на фізіялагічную тэму ўспрымаюцца куды спакайней. «Што да сексуальных сцэнаў — гэта проста агульнае месца, своеасаблівы код, па якім пазнаецца прыналежнасць тэксту да сучаснай літаратуры. Раней чытач такія сцэны нецярпліва вышукваў, цяпер — абыякава прамінае, як літаратурны штамп», — тлумачыць герой п'есы літаратурны крытык Пётра. Адпаведна ў нашым разнявольненым грамадстве нікога не здзівіў бы і знакаміты дзённік М. Багдановіча, але…

Зрэшты, драматурга цікавіла ў п'есе не толькі гісторыя дзённіка. С. Кавалёў паспрабаваў ажывіць перадрэвалюцыйны час: невыпадкова дзейныя асобы так нагадваюць тыповых герояў тагачаснай прозы, а адзін з самых напружаных эпізодаў першага акта запазычаны з «Зойкі і Валерыі» І. Буніна — вось толькі да самагубства справа не даходзіць. Матыў трагічнага, напоўніцу не зведанага кахання цалкам стасуецца з уяўленнямі пра пачатак XX стагоддзя як эпоху дэкадансу, час надламаных і хваравітых пачуццяў. Сімвалічным з'яўляецца і вобраз Старога Крыма — пансіяната для сухотнікаў: «Адагрэюцца крыху на паўднёвым сонейку, падыхаюць свежым паветрам і пачынаюць падчапурвацца… заляцацца. Потым развітваюцца, плачуць, клянуцца праз год сустрэцца. А глядзіш, наступным летам зусім іншыя твары мільгаюць, а тыя, хто кляўся і чакаў сустрэчы, ужо знайшлі сабе вечны прытулак і спакой...»

У сучаснай гісторыі інтымнае робіцца менш таямнічым і прыватным, ніхто з новых герояў не здатны перажываць каханне так глыбока, як малады Багдановіч ці мастак-выпівоха Стыліян. І калі з твора павыкідаць усё эпатажнае, то атрымаецца, бадай, самая сумная і безнадзейная п'еса з усёй драматургіі С. Кавалёва.

## ТЭАТР, ВЕРА І ГАЛАДАННЕ

П'есы С. Кавалёва цікавыя ідэйнай разнастайнасцю і сэнсавай неадназначнасцю. Драматург засяроджаны не толькі на тэме асабістых адносін: у «Стомленым д'ябле» ён нагадвае пра непераможную чалавечую слабасць, якую людзі не здолелі вынішчыць за 7505 гадоў ад стварэння свету, а ў «Сёстрах Псіхеі» сцвярджае неабходнасць веры, без якой немагчымы ані цуд накшталт смарагдавага палаца, ані сапраўднае каханне.

Адметнай у творчасці С. Кавалёва стала п'еса-фантасмагорыя «Вяртанне Галадара». Унікальны чалавек, які мог 40 дзён існаваць без ежы, доўгі час вандраваў разам з перасоўным звярынцам — але ў нейкім правінцыяльным мястэчку бясследна знік. Праз шмат гадоў звярынец вяртаецца ў мястэчка, і Галадар (ён ці не ён?) апынаецца ў сваёй старой клетцы. Яго з'яўленне ўсіх здзіўляе, але нікога не ўсцешвае: насцярожаныя Бурмістр і Журналістка пачынаюць абдумваць сэнс публічнага галадання, а дырэктар звярынца Эрна вяртаецца згадкамі ў сваё дзяцінства… У цэнтры п'есы зноў не любоўныя калізіі, а праблема спажывання і нікому ўжо не патрэбнай, небяспечнай магчымасці НЕ спажываць, праблема хлусні, няшчырасці і іх рэальных падстаў, праблема асабістай свабоды і нават сучасных веравызнанняў.

Як на ўласны густ, адна з найлепшых п'ес вядомага драматурга — «Францішка, або Навука кахання». Галоўная гераіня — знакамітая літаратарка Уршуля Радзівіл — паўстае немаладой, крыху наіўнай ідэалісткай-асветніцай, якая нібыта не заўважае амурных прыгод мужа. У развязцы высвятляецца, што Францішка лепш за іншых была дасведчанай у навуцы кахання: прадчуваючы недалёкі сыход, яна здолела наперад прадлічыць развіццё стасункаў паміж блізкімі сабе людзьмі і ў душы пагадзілася з будучым шлюбам мужа і пляменніцы.

Асаблівае важнай паўстае ў творы тэма тэатра. Гэты від мастацтва здаўна лічыцца добрым сродкам выхавання, але паводле п'есы тэатр не выхоўвае — ён можа толькі натхніць, узрушыць чалавека з чуйнай і ўзнёслай душой. Муж і сын Францішкі, якія выконваюць станоўчыя ролі ў напісаных ёю п'есах, нават не думаюць змяняцца, «правільныя» п'есы не робяць больш суладным і шчырым рэальнае жыццё, а толькі падкрэсліваюць яго трывіяльнасць і пошласць.

Але ці ёсць такімі ўжо марнымі намаганні перайначыць жыццё праз мастацтва? У выпадку галоўнай гераіні гэта адзіны сродак адстойваць свае высакародныя ідэалы. Памірае гаспадыня Нясвіжа, гіне яе здатная выхаванка Тэрэзка, застаецца самотным закаханы ў дзяўчыну Станіслаў (ідэальная пара накшталт Рамэа і Джульеты), але ў фінале аўтар падводзіць рысу: чалавек мае жыць годна, каб не «з'явіцца перад Рэжысёрам з брудным тварам», і Францішка ніколі не забывалася на гэта.

С. Кавалёў заўсёды прытрымліваецца прынцыпаў класічнай эстэтыкі: прыгожым, прывабным з'яўляецца толькі добрае і разумнае. Велічным і ўрачыстым можа стаць сыход з зямнога жыцця, але злачынства ці здрада ніколі не будуць прыгожымі і не дадуць добрага плёну — у лепшым выпадку да іх можна паставіцца нейтральна.

…П'есы С. Кавалёва сталі не толькі займальным відовішчам для гледачоў беларускіх і замежных тэатраў — гэта яшчэ і цікавыя мастацкія тэксты для сучаснага чытача. На жаль, у артыкуле давялося абмінуць драматургію для дзяцей — але багаты матэрыял, прысвечаны самым розным аспектам творчасці гэтага аўтара, сабраны ў выдатным зборніку «Паміж Беларуссю і Польшчай» («Кнігазбор», 2009).

Хочацца спадзявацца, што беларуская літаратура будзе найчасцей здавацца вядомаму крытыку, літаратуразнаўцу і драматургу дзівосным смарагдавым палацам, у існаванне якога трэба абавязкова верыць (інакш — маланкі, дробныя аскепкі і адзінокая птушка), а тэатр назаўсёды застанецца цудам, месцам, дзе здзяйсняюцца самыя лепшыя задумы і самыя смелыя мары!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

Даяна ЛАЗАРАВІЧ (Сербія)



Даяна Лазаравіч нарадзілася ў 1993 годзе, скончыла гімназію ў г. Шабац, цяпер студэнтка аддзялення бібліятэказнаўства і інфарматыкі філалагічнага факультэта Бялградскага ўніверсітэта, дзе сярод розных прадметаў вывучае і беларускую мову. Даяна — адна з самых лепшых маіх студэнтак: вельмі зацікаўленая, падрыхтаваная, адораная.

Даяна піша вершы па-сербску, па-руску, па-беларуску і па-англійску, лаўрэат шэрагу айчынных і замежных конкурсаў, аўтар двух паэтычных зборнікаў: «Kroz prostor i vreme» (Валева, 2011) і «Staze zvezdanog beskraja» (Валева, 2012). Даяна любіць малярыць, слухаць музыку (асабліва югаслаўскі рок і поп 1980 — 1990-х гадоў), чытаць кнігі (гістарычныя і рамантычныя раманы і паэзію). Яе любімыя аўтары — Дэсанка Максімавіч, Владзіслаў Петкавіч-Дзіс, Ёван Дучыч, Оскар Давіча, Гётэ і Пушкін. Улюбёнае яе месца — манастыр Каона каля Шабаца.

**Мікіта СУПРУНЧУК**

## Беларусь

*Я ведаю пра невялікую краіну*
*Дзесьці на ўсходзе Еўропы.*
*Невялікая краіна, як і мая,*
*Але там жывуць людзі з вялікім сэрцам.*
*Без страху, нат калі надзеі няма,*
*Праз войны і мір, зімой і летам.*

*Гэтая краіна завецца Беларусь,*
*Гэта зямля шырокіх зялёных лугоў,*
*Зямля свежай ранішняй расы,*
*Што абмывае кветкі і зіхацідь*
*на кустах.*
*Гэта зямля рэк, азёр і балот,*
*Вечназялёных хваёвых лясоў,*
*Пяшчотных бяроз і магутных дубоў.*
*Гэта зямля птушак ды песень,*
*Што звіняць і ўвесну, і ўвосень,*
*Калі нараджаецца сапраўднае каханне.*
*Гэта зямля каштоўных работнікаў,*
*Вялікіх герояў і крывавых бітваў,*
*Гэта зямля нашых братоў.*

*Браты-беларусы — мірныя людзі,*
*Сэрцам адданыя роднай зямлі,*
*Вякамі баранілі тое, што любяць:*
*Радзіму, сям'ю і родны парог.*
*Не баяліся страшных ран,*
*Не баяліся болю ці смерці.*
*З песняй на вуснах, з любоўю ў грудзях,*
*Яны не ведалі, што гэта — страх.*
*І сёння яны — адданыя сябры,*
*Верныя браты і рупныя работнікі,*
*Што жывуць у напружанай працы,*
*Сумленнымі і справядлівымі,*
*Людзі, сярод якіх ёсць любоў.*

*Я ведаю пра невялікую краіну*
*Дзесьці на ўсходзе Еўропы.*
*Гэта зямля птушак, лясоў і лугоў,*
*Гэта зямля прыгожых зялёных палёў,*
*Працавітых людзей, надзеі, свабоды.*
*Беларусь — зямля нашых братоў.*

## Белая лясная кветка

*Дарагі, я не прынцэса.*
*Я не нарадзілася на падушцы,*
*На шаўковай падушцы, у замку,*
*У каралеўстве майго бацькі.*
*Я не вырасла з каронай,*
*Акружаная вернымі спадарожнікамі,*
*Як кожная сапсаваная прынцэса.*
*Я нарадзілася на прыродзе,*
*Ля халоднай крыніцы,*
*З першымі сняжынкамі.*
*Я вырасла з аленямі,*
*З дзікімі тарпанамі і ваўкамі.*
*На поўныя грудзі я дыхаю,*
*Спяваю і пяшчотныя вершы пішу.*
*Я не віла і не прынцэса —*
*Я толькі белая лясная кветка.*

*Неба нада мной такое дзівоснае!*
*І гэты ручай такі бліскучы!*
*Дубовыя лісты атачаюць мяне.*
*Пах лесу... Гэтая мая свабода,*
*Маё імя і ўсё маё шчасце.*
*Я іду, танцую, гуляю,*
*З галубкамі аб зорках мару,*
*Я спяваю аб вачах, спяваю аб вуснах,*
*Аб вясне, аб кветках і аб зялёных дубах.*

*Я спяваю, дарагі, тваю любімую песню —*
*Песню пра каханне,*
*якое доўжыцца вечна,*
*Аб безумоўным каханні,*
*каханні без межаў.*
*Ты ведаеш, як моцна я цябе кахаю?*
*Вось чаму толькі для цябе*
*Я спяваю і танцую сёння.*
*Вось чаму я веру ў поспех.*
*Трымай мяне моцна, рыцар маёй душы!*
*Не дазваляй мне заблукаць*
*Сярод яркіх зорак, іншых кветак*
*І першых кропель ранішняй расы.*
*Не дай мне ўпасці ў каханне,*
*У вусны і вочы, нявартыя мяне!*
*О, дарагі, я хачу, каб ты ведаў,*
*Як цябе любіць твая лясная кветка,*
*Як моцна цябе любіць твая паэтка.*

## Гарачае жаданне

*Ноч. Усе спяць. Я гляджу ў акно.*
*Зоркі маўчаць, як мае вусны,*
*У параненай душы няма слоў:*
*Дзе ты? Што робіш у гэтыя дні?*
*Ты памятаеш нашую любоў?*

*Ах, чорныя вочы! Чорныя, як неба!*
*Без вас як зіма для мяне лета!*
*Новага нічога, мёртвае сэрца...*
*Таму што ты — усе мае думкі,*
*Таму што ты — мае паўсвета!*

*Ноч. Я слухаю: падаюць кроплі дажджу...*
*Я мару, але цябе не магу адшукаць.*
*О, людзі! Ведаеце, як мне няўцешна?!*
*Калі ласка, ціха — зараз я хачу спаць...*



Фота Анатоля Дрыбаса

Вольга ШПАКЕВІЧ



## Я люблю Беларусь

*Мурагі дыванамі шаўковымі*
*Усцілаюць вясною зямлю,*
*Зімка срэбнымі бразне аковамі —*
*Вось такой Беларусь я люблю.*

*Лета з восенню ў фарбах спрачаецца,*
*Ускідае квяцісты абрус,*
*Над палескай паводкаю чаіца —*
*І такою люблю Беларусь.*

*Лёну золата, рэкі блакітныя,*
*А на свеце так многа спакус...*
*Ды зямельку сваю не пакіну я,*
*Бо люблю я, люблю Беларусь.*

## Наша мова

**Светлай памяці Ніны Мацяш**

*Усміхаюцца вусны, а вочы ў журбе,*
*І святло, і цяпло ў кожным слове.*
*Пакручасты мой лёс, як я ўдзячна табе*
*За мелодыю роднае мовы!*

*Будзе вечна цвісці беласнежны твой сад*
*І паэты спяваць салаўямі,*
*Будзе наша надзея і наша краса,*
*Наша мова заўжды будзе з намі.*

## Мая вёска

*Мяне вёска чамусьці не вабіць*
*Хоць на дзень завітаць, паглядзець,*
*Бо не кліча зямля мяне, мабыць,*
*І ніхто не чакае з людзей.*

*Тая рэчка, дзе мыла бялізну,*
*Назаўсёды пабегла ў нябыт,*
*Бацькаў дом, што здаваўся вялізным,*
*Насамрэч ён такім і не быў.*

*І дарога ля вёскі разбіта,*
*Вечарамі ніхто не спяе.*
*Вёска, мусіць, у крыўдзе нязбытнай,*
*Што калісь я сышла ад яе.*

## На малой радзіме

*На радзіме яснейшыя зоркі*
*І глыбейшы нябёс акіян.*
*Успамін мой салодкі, мой горкі,*
*Як табой устрывожана я!*

*На радзіме цяплейшае сонца*
*І бялейшае зім палатно,*
*А душа так шчымліва маркоціцца,*
*Калі мама рассцеле радно.*

*На радзіме дабротаў не злічыш,*
*На радзіме красы не мінеш,*
*Мая ночка рассыпала знічкі,*
*А жаданняў у сэрцы не менш!*

***

*Тваё імя шапчу з замілаваннем*
*І кожны гук смакую, нібы мёд.*
*Ні лёс, ні час не ўладны над каханнем,*
*Ні памяці ўзбуялае быллё.*

*І воблік твой у снах найшчаслівейшых,*
*І голас, голас — музыцы наўздзіў.*
*І песні лепшыя — пра нас, і вершы,*
*І гэты свет для нас сам Бог стварыў.*

*Душа душы, нібыта сонца, прагне,*
*Пакуль жыве — не прызнае зімы.*
*Ні час, ні лёс не ўладны над каханнем,*
*Не ўладны над каханнем нават мы.*

***

*Як табе жывецца, маці,*
*Як здароўе, як настрой*
*Ва утульнай нашай хаце,*
*Што зрабілася старой?*

*Выбачай: гасцюю мала,*
*Час маю сцяжынку сцёр.*
*За цябе малюся, мама:*
*За здароўе, за жыццё.*

***

*Дажджы былі як зоркапад*
*Халоднымі начамі,*
*Я гаварыла неўпапад*
*І неўпапад маўчала.*

*І пад гіпнозам воч тваіх*
*Губляла ціха волю.*
*Сярод людзей былі ўдваіх:*
*З табой — я, ты — са мною.*

*Пад срэбным покрывам нябёс*
*Асенній ночы мала.*
*У мой змарнелы, змрочны лёс*
*Раптоўна знічка ўпала.*

Алесь ГОЦКА



* * *

*Жураўлік мой, цябе я адпускаю,*
*Ляці ў нябёсы — болей не лаўлю:*
*Сініцу я ў руках сваіх трымаю,*
*Яе, надзейную, даўно кахаю,*
*Яе, як і цябе, даўно люблю.*

*Найбольш, жураўлік мой, люблю свабоду,*
*А здраду, ашуканства — не цярплю.*
*Табе прызнаюся з нагоды:*
*— Я не люблю душэўнай непагоды,*
*Таму цябе я болей не лаўлю...*

## О, Усявышні!

*Цябе я прашу: падкажы,*
*Дабрыні як мне вызначыць*
*Ісціннасць,*
*Каб за праўду*
*Цвікоў не было на крыжы.*
*Каб сумленню на свеце*
*Лягчэй было жыць,*
*Бо без іх, як без рук, —*
*Няма выйсця нам.*
*Пачынае шарэць...*
*Паглядаю ў акно:*
*Зоркі срэбрам ужо*
*Засвяціліся.*
*А ў душы неспакой*
*І жаданне адно —*
*Каб зямля была з небам*
*Заўжды заадно,*
*Не гнявіла яго,*
*Не сварылася...*

* * *

*Я ўсё менш гавару —*
*Хачу болей сказаць,*
*Неруш слоў ажыўляе паэзія.*
*Хтосьці будзе мяне*
*Упікаць — дакараць,*
*Што «парфумай» не ўмею*
*Я верш аздабляць, —*
*Рэчаіснасцю ўвесь*
*Зажалезіўся.*

## Барыс БЕЛЯЖЭНКА

# Мішэні

## *(Быль і боль)*



Яны з'явіліся ў Прымыслах нечакана. Пэўна, прабіраліся з Бачэйкава ўздоўж берагоў Вулянкі, па загароддзі. Адтуль — праз ручай — і выйшлі на галоўную вуліцу Прымыслаў: прыгожая, статная маладая жанчына з васьмігадовай дачушкай. Яны, баязліва азіраючыся, таропка, уподбег, басанож спяшаліся ў напрамку Чашнікаў.

І хаця вуліца з першых дзён вайны была найчасцей бязлюднай, вясковыя жанчыны праз вокны пазналі бачэйкаўскую прыгажуню яўрэйку Рыту. Яна трымала сваю дачушку за руку і прыспешвала яе, як магла. Было бачна, што дзяўчынка знемагала, не паспявала далонькай пазбаўляцца ад слёз, і яны цяклі з чарнявых вочак па шчочках. Яна раз-пораз усхліпвала, глытаючы слязінкі, і знямела пазірала на перапалоханую маці.

А тая, расхрыстаная, з распушчанымі валасамі, вачамі, поўнымі смяротнага жаху, глядзела запытальна-боязна ці то ў неба, ці то ў недасягальную далеч. Рыта з дачушкай былі ўжо амаль на ўскрайку вёскі, адкуль можна было хуценька спусціцца з пагорка і схавацца за могілкамі ці затуліцца ля берага Вулянкі, але, як прадвеснік смерці, немаведама адкуль з'явіўся высокі буланы конь з мардатым вершнікам.

Закілзаны конь, нібыта напаказ, хвіля ад хвілі задзіраў высока галаву, грыз цуглі і пырскаў пенай. Шыракаплечы коннік, вядомы ўжо з пачатку вайны паліцай Пупянок, як укапаны сядзеў у барвовым скураным сядле і з усяе сілы са злосцю гнаў каня, сцябаючы яго бізуном.

— Сто-о-ой! — гаркнуў паліцай, калі яшчэ здалёк заўважыў Рыту з дачушкай.

Тыя міжволі збочылі з дарогі ў канаву і ўмомант замёрлі на месцы. Пупянок імгненна дагнаў бяглянак, саскочыў долу, рыўком падштурхнуў Рыту да каня, выхапіў з кішэні вяроўчыну, уедлівай пятлёй сцяў руку жанчыны і прывязаў да сядла.

Рыта рыдала, яе дачушка, знямелая ад жаху, тулілася да маці і спалохана, дзіка глядзела на паліцая.

А той узвалюхаўся на каня і са злосцю ўрэзаў па ім бізуном. Конь ірвануўся з месца і павалок Рыту, якая ледзьве паспявала перастаўляць ногі. Побач з ёю з апошніх сіл бегла яе дачушка…

Вясковыя жанчыны, якія бачылі гэтыя здзекі, рыдалі. А Пупянок ганарліва сядзеў на кані, але надта ўжо яго не прыспешваў, бо хацеў пагеройнічаць перад вяскоўцамі дый зразумеў, што Рыцінай дзяўчынцы не хопіць сіл, каб паспяваць бегчы побач з канём. А яна бегла, збіваючы босыя ножкі аб каменьчыкі і жвір.

Пупянок кіраваў да могілак. Паблізу, каля іх прыпыніў каня і агледзеўся. Потым моўчкі тузануў повад і падаўся да рэчкі. На беразе, сярод вольхаў і лазняку, спыніў каня і злез з яго. Рыхлы пясок і бязлюднае месца найбольш былі прыдатныя для яго задумы.

Ён падышоў да Рыцінай дзяўчынкі. Яна трымала маці за руку і, апусціўшы голаў, бязгучна плакала. Кат наводмаш ударыў дзяўчо, і яе тварык заліўся крывёю.

Рыта ўскрыкнула, ірванулася да дачкі, ледзь не разарваўшы вяроўку, якой была прывязана да сядла, але нічым дапамагчы ўжо не магла. Дзяўчынка была мёртвая. Пупянок схапіў яе за руку і, працягнуўшы дзясятак крокаў, кінуў каля высокага выступу берага. Рэзкім ударам нагі абрынуў гэты выступ. Пясок і дзярноўе назаўсёды пахавалі дзяўчынку…

Рыта рыдала, ледзьве трымаючыся на нагах. Пупянок падышоў да каня, зняў з яго шыі повад і прывязаў да алешыны. Потым моўчкі развязаў вузел вяроўкі, якой была прывязана Рыта, схапіў яе за руку і пацягнуў да берага. Яна міжволі перастаўляла ногі, хістаючыся і спатыкаючыся, павольна падавалася следам за катам.

А той, раптоўна спыніўшыся, абрынуў Рыту на траву, ірвануў на ёй адзенне, спрабуючы распрануць. Яна ў адчайным парыве імгненна прыўстала і ўпілася зубамі ў яго руку. Пырснула кроў. Пупянок з сілай тузануў руку і каленам выцяў Рыце ў твар. Яна завалілася і заціхла…

Кат злосна вылаяўся, сарваў жмуток травы і сцёр з рукі кроў. Рыта варухнулася, ён зірнуў на яе і ледзь не ўскрыкнуў ад здзіўлення: перад ім была ўжо не чарнявая прыгажуня, а старая жанчына з валасамі, абвітымі сівым павуціннем.

Выхапіўшы з кабуры пісталет, Пупянок тройчы стрэліў Рыце ў грудзі. З-пад нагі ката на жанчыну пасыпаліся труха, пясок, дзярноўе…

Цяпер кат спяшаўся ў Бачэйкава, каб паведаміць Вольфу, што бяглянкі пакараны.

А над Бачэйкавам трапятаў нязвыкла прыкры шум. Галасілі жанчыны, надрыўна крычалі дзеці: фашысты зганялі яўрэйскія сем'і да скрыжавання. Тут стаяў грузавік, і немцы ўвішна заганялі людзей у кузаў. Калі ўсе, каго прыгналі, былі ў машыне і заставалася толькі старая кульгавая цётка Раіса, на яе зірнуў афіцэр Вольф. Халодныя вочы спыніліся на тонкай металічнай трысцінцы, на якую абапіралася старая. Вольф здагадліва пляснуў сябе па сцёгнах:

— О! Ідэя!

Двое памагатых зацікаўлена зірнулі на яго.

Пупянок і немцы хутка зачынілі борт машыны, і яна папаўзла да лесу. Сівавалосая Раіса засталася стаяць сярод фашыстаў, з болем пазіраючы на грузавік, у якім білася, ірвалася да маці яе дачка.

Раіса хацела пабегчы ўслед за машынай і зрабіла некалькі крокаў, але Вольф ударыў яе ў жывот. Жанчына павалілася на брук.

— Уставай! — пачула яна. Хістаючыся, цяжка ўзнялася з зямлі.

— Ідзі!

Яна павольна пайшла, абапіраючыся на трысцінку, па пустой вуліцы ў кірунку ракі. Следам, весела размаўляючы, падаліся тры фашысты.

З-за фіранак местачковых вокнаў узнікалі і хаваліся спалоханыя твары. З вакна хаты, што была на ўскрайку вуліцы, блiснулі чорныя юначыя вочы і з журбой, усё разумеючы, праводзілі гэтую працэсію. Яна збочыла з дарогі. Вольф загадаў жанчыне ісці па сцежцы да ракі.

Раіса павярнулася да фашыстаў:

— Страляйце тут…

— Мы не будзем забіваць! Ідзі! Ідзі!

Старая крыху пастаяла і ступіла некалькі крокаў. Левая нага дрэнна згіналася, і жанчына бездапаможна спынілася, паглядзела на фашыстаў вачамі, поўнымі бясконцага гора.

Вольф спачувальна паківаў галавой і з ілжывай ветлівасцю жэстамі рук паказаў:

— Паўзі!

Знясіленая, заплаканая старая стаяла нерухома.

Фашыст пагрозліва шчоўкнуў аўтаматам:

— Паўзі!

Яна стаяла на месцы.

Афіцэр паспрабаваў пажартаваць, але жанчына стаяла на месцы, маўкліва і дакорліва пазірала на маладых немцаў. Упаўголаса прамовіла:

— Вэр зінт ойрэ мюттэр?[1]

— Яна яшчэ нешта гаворыць! — злосна пераглянуліся фашысты, схапілі старую пад рукі і пацягнулі да ракі…

…Пятнаццацігадовы Пятрок Яцко з хаты, што стаяла на ўскрайку вуліцы, выскачыў на двор і праз шчыліны ў плоце нейкую хвіліну сачыў за фашыстамі.

Пятрок выбіўся на агарод, прыгінаючыся, пабег уздоўж плота. Хутка схаваўся за пагоркам, каля старой лазні. Сэрца калацілася і аддавала звонам у скронях. Хлопчык прытуліўся да сцяны, утаропіўшы вочы ўдалеч.

Раіса стаяла, пахіліўшыся на трысцінку, і глядзела наўкола няўцямным позіркам.

Немцы адлічылі больш як паўсотні крокаў і спыніліся. Вольф прысеў на калена, спрытна ўскінуў аўтамат і прыцэліўся…

Пятрок зажмурыў вочы і міжволі асеў на траву. Нязвыкла, дзіка трэснула аўтаматная чарга. Кароткае рэха зачапілася за лазовыя кусты.

Хлопчык ускочыў і ледзьве не закрычаў ад горкага пачуцця нянавісці і бяссілля.

Раіса стаяла на месцы ў той жа позе. Чародка вераб'ёў выскачыла з хмызняку і скіравала да вёскі. Неспакойна залапаталі сарокі, недзе завыў сабака.

Немцы адзін за адным прыгожа прысядалі на калена, цэліліся і давалі кароткую чаргу. А жанчына ўсё стаяла на беразе, нерухомая, учарнелая, нямая.

— Панове салдаты! На што вы здольныя?! — смеючыся, ускрыкнуў Вольф.

— Мы не можам выбіць з рук гэтай сівой свінні звычайную трысцінку!

Ён зажмурыў вока, націснуў на курок і вылаяўся…

…Здагадка ўзнікла імгненна. Пятрок схапіўся за лодку, што стаяла пад сцяной лазні, кульнуў яе на зямлю, за халодны ланцуг пацягнуў па схіле пагорка да рэчкі. Цяпер ён нічога не чуў, апрача свайго дыхання і нічога не бачыў, апрача віхлястай сцежкі. «Хутчэй! Хутчэй!» — штосьці падсвядомае, гарачае білася ў целе, гнала яго да рэчкі. Лодка паслухмяна паўзла за хлопчыкам…

Яшчэ адна куля свіснула і плюхнулася ў ваду. Зноў вярнулася цішыня. Раіса пачула, нібыта з аддаленага, іншага свету данеслася ціхае, ласкавае булькатанне. У галаве гуло. Ва ўсім целе было дзіўнае адчуванне пустаты. Рукі знямелі на халоднай металічнай трысцінцы.

Цішыня павольна здымала апантанасць. Зусім недарэчы пачуўся раптам смех. Жанчына ўзняла галаву і ўбачыла воддаль немцаў. Яны весела падскоквалі на пагорку і ажыўлена гаварылі.

Раіса не разумела, чаму яны не забілі яе. Кулі пралядалі збоку, свісталі ля рук, але не зачапілі цела. Вось ізноў немцы змоўклі, і адзін з іх ускінуў аўтамат… Раіса зажмурыла вочы.

На гэты раз Вольф не спяшаўся: ён павінен зрабіць свінцовую адзнаку на гэтай трысцінцы, такі сувенір-сведка яго трапнай стральбы павінен быць дастаўлены ў родны Гамбург.

Аўтамат падскочыў, штурхануўшы ў плячо. Старая стаяла на месцы. Вольф вылаяўся. «Ці не лепш цэліцца ёй у галаву?» — падумаў ён і крыва ўсміхнуўся сам сабе. Ён хацеў штосьці сказаць салдатам, павярнуўся да іх, як раптам тыя ўскрыкнулі і замахалі рукамі, паказваючы на рэчку.

З-за кустоў, быццам зваліўшыся з неба, высунулася лодка і спынілася каля жанчыны. Старая нечакана заўважыла побач з сабой Петрака.

— Цётка Раіса! Садзіся ў лодку!

Хлопчык адной рукой трымаўся за борт, а другую падаў старой. Жанчына павярнулася, нязграбна пераступіла цераз борт. Трысцінка ўпала і спаўзла ў ваду. Пятрок адштурхнуў лодку, імклівае цячэнне падхапіла яе і панесла ўніз.

Першым спахапіўся Вольф. Ён даў чаргу па лодцы. Засакаталі яшчэ два аўтаматы. А чоўнік мільгаў між кустоў, натыкаючыся на рознае прыбярэжнае ламачча.

Немцы беглі наўздагон і стралялі, стралялі.

Калі апошняя куля перасекла танклявую каліну на другім беразе, лодка была ўжо далёка. Яна гайдалася на хвалях і плыла невядома куды. Чырвонымі плямамі свяцілася на грудзях хлопчыка і старой Раісы кроў…

[1] — Хто вашы маці? *(ням.)*

## Міхась ШУЛЬГА

# Апошні шанц

**Маёй маці прысвячаю**

Вайна парушыла ціхую плынь вясковага жыцця. Здаровыя мужчыны былі мабілізаваны на фронт, слабейшыя хлопцы і яшчэ дзябёлыя дзядулі падаліся партызаніць у тутэйшых лясах.

У вёсцы М. засталіся, бадай, адны кабеты ды дзятва. Вяскоўцы мусілі прызвычаіцца да выбухаў мін, снарадаў, аўтаматных чэргаў ды проста адзіночных стрэлаў.

Час ад часу ў вёску наведваліся фашысты — устанаўліваць «новы парадак». Людзі імкнуліся не трапляцца на вочы нелюдзям. У адзін з ліпеньскіх дзён немцы ехалі, паблісквалі каскамі ў кузаве грузавіка, іх суправаджала пяць чорных матацыклаў. На лясной калдобістай дарозе няпрошаных гасцей чакалі партызаны. Засада аказалася няўдалай: адзін фашыст быў забіты, двое паранена. Гэта толькі раз'юшыла ворагаў. На другі дзень, яшчэ зранку, немцы ўжо гаспадарылі ў вёсцы. Праз перакладчыцу, тонкую, нібы тычка, істоту ў плашчы з белай хусцінкай, завязанай на шыі, два афіцэры загадалі палешукам сабрацца ў цэнтры вёскі. Калі сагналі да калгаснага свірна, афіцэр пачаў чытаць загад пра тое, што належыць знішчыць усіх за напад партызан. У гэты момант з'явілася бронемашына і спынілася непадалёк. З яе выпаўз яшчэ адзін нямецкі чын. Ён адразу скеміў, у чым справа, і даў вяскоўцам апошні шанц. Палешукоў не знішчаць, калі яны прынясуць сюды курэй і фасолю.

Людзі з палёгкай уздыхнулі і пагадзіліся аддаць ворагам сваё дабро. Неўзабаве яны склалі ў адной кучы звязаных курэй, зводдаль ссыпалі на зрэбную посцілку ачышчанае зерне фасолі.

А ноччу вяскоўцы перабраліся ў лес да партызан.

На другую раніцу вёска была дашчэнту спалена.

# Мар'іна бяроза

Як толькі надарыцца вольная хвіліна, напаўсагнутая, сухенькая бабуля Мар'я бярэ арэхавы кіёчак з белымі кропкамі на цёмна-карычневай кары і паціху тэпае старэчай хадою. Бабуля ўпэўнена трымае шлях да пярэстай белачорнай старадрэвіны — бярозы за ваколіцай, якой вецер-свавольнік расчэсвае гнуткія косы. Бабуля стаіць тут падоўгу, як быццам размаўляе з дрэвам.

Даўно тое пачалося. Калі старой Мар'і горка на сэрцы, прыходзіць яна да бярозы, ля якой некалі часам душою спачываў яе Іванчык. На самоце бабуля дае волю слязам, што даганяюць адна адну, імгненна скочваюцца па маршчыністым твары.

Згадвае Мар'я свайго адзінага сына, студэнта настаўніцкага інстытута. Як толькі прысядзе на цёмным пянёчку ля бярозы, перад вачыма міма волі паўстае постаць Іванчыка, які так марыў настаўнічаць, усплывае і тое, як апошні разочак бачыла яго тут на першым годзе ваеннага ліхалецця. А пасля з фронту белымі галубкамі прыляталі ад яго, Іванчыка, акуратна падпісаныя лісты-трохкутнікі.

Праз два гады, калі белай квеценню духмянілі сады, прыйшла пахавальная…

…Імкліва бяжыць час. Даўно матуліну маладосць зааралі маршчыны. Боль і гора сагнулі, але ўсё ж такі не зламалі жанчыну.

Ды часам наблізіцца Мар'я да бярозы, а нехта шыбуе па гасцінцы, і зводдаль здаецца ёй, што гэта ён, яе высокі чарнявы весялун.

Пасля моўчкі бярэ яна арэхавы кіёк і тэпае дахаты…

# Адкрыццё года

**У Мінску па вуліцы Някрасава, 3 расчыніў свае дзверы Цэнтр сучаснага мастацтва. Расчыніў нават заўчасна, прымеркаваўшы адкрыццё да «Ночы музеяў». Назва і канцэпцыя першай экспазіцыі сімвалічныя: «Дзверы». Яны адчыненыя, яны запрашаюць, вітаюць — усіх, хто гатовы таксама адкрыць душу новаму, нязвыкламу мастацтву.**

Тацццяна СТУДЗЕНКА

Два гады таму па ініцыятыве, падтрыманай на ўзроўні Прэзідэнта, на базе былых майстэрняў М. Савіцкага было вырашана стварыць пляцоўку для маладых і сталых творцаў — тых, хто працуе ў галіне сучаснага мастацтва. Як будзе ладзіць працу новы арт-цэнтр, якія праекты адбыліся, адбываюцца і маюць адбыцца, распавядае намеснік дырэктара Цэнтра Аляксандр Еравенка:

— Гэта цалкам новы кірунак для нашай краіны, хоць па ўсім свеце ўжо даўно існуюць адпаведныя пляцоўкі. На дадзены момант мы ў пошуку шляхоў аб'яднання ўсіх нефармальных мастацтваў і мастакоў, якім ёсць што паказаць з таго, што ў Беларусі ніколі не паказвалася. Папярэдне мы будзем ладзіць спецыяльныя арт-праекты: па чарзе экспанаваць тэатральныя імпрэзы, графіку, скульптуру, дызайн. Экспазіцыя будзе змяняцца практычна кожны месяц да канца бягучага года, а ў наступным мы створым адну каласальную агульную выстаўку, падобную да I Трыенале сучаснага мастацтва ў снежні 2012 года.

**— Дарэчы, пра Трыенале: мастацтвазнаўцы назвалі яе расчараваннем года...**

— Колькі людзей, столькі меркаванняў. Мінская Трыенале паказала, што пры шматлікіх мінусах (недахоп рэкламы, нязручнае месцазнаходжанне, непрыстасаванае памяшканне) яна цікавая людзям: 25 тысяч наведвальнікаў за два тыдні. Шмат было становўчых водгукаў. Самая сур'ёзная прэтэнзія да Трыенале: неставала агульнай канцэпцыі. Што ж, мы імкнуліся ахапіць неабсяжнае. Наступныя форумы, магчыма, будуць больш цэльныя. Галоўнае — пра іх загаварылі, людзі ўбачылі нешта сапраўды новае.

**— Мяркуючы па размаху вашых планаў і ўлічваючы не заўжды «некампактны» памер аб'ектаў, вам хутка будзе цесна і ў майстэрнях Савіцкага?**

— Так, якраз цяпер мы працуем над глабальным праектам «Арт-дэпо». Натхнёныя кіеўскім «Арсенале», просім даць нам у Мінску вялікае памяшканне — магчыма, нават заводскае, які-небудзь стары цэх. У ім былі б не проста выстаўкі: хацелася б, каб наведвальнік мог непасрэдна назіраць, як працуе мастак, як нараджаецца твор.

**— Ваш кабінет упрыгожвае незвычайная скульптура з дзвюх частак — егіпецкая Неферціці і нехта яшчэ...**

— Так, адна — Неферціці: вобраз жанчыны сталай культуры, што ўжо склалася ў сваіх асноўных рысах. А побач — твар маладой беларускі: вобраз, які толькі-толькі «скідвае» з сябе «грунт» нявызначанасці, невядомасці. Абедзве нібы перараджаюцца з каменю, толькі адна раскрылася больш, другая — менш. Мы — маладая культура. Гэта імкнуліся паказаць маладыя скульптары Ганна Інькова і Тамара Стасевіч.

**— Як, дарэчы, будзе вырашацца пытанне экскурсійнага абслугоўвання?**

— Безумоўна, тут павінны працаваць людзі з адпаведнай адукацыяй, каб распавесці пра той ці іншы аб'ект. На Трыенале мы зведалі сапраўдныя цяжкасці — і нашы гледачы таксама. Уявіце, што на 8000 кв. метраў было ўсяго 3 ці 4 экскурсаводы. Але ў Цэнтры (2000 кв. метраў) такой колькасці будзе дастаткова: па два куратары на кожны паверх. Гэта будуць маладыя спецыялісты з Інстытута культуры і Акадэміі мастацтваў.

* * *

Мастак, рэжысёр тэатралізаваных праектаў (перформансаў) Уладзімір Кустаў згадзіўся правесці мяне па залах.

— Адпаведна назве дзеючага праекта «Дзверы» мы афармілі нават дрэвы перад уваходам: яны ўвасабляюць чалавечыя постаці ў «касцюмах» з залацістай (святочнай!) фольгі. У фае — антычныя торсы, абвешаныя ключамі ў колькасці больш як 600 (!): маўляў, адкрывайце для сябе цэлы свет. На торсах, на частцы нішаў, аб'ектаў, па калідорах і лесвіцы — дрот, які свеціцца. Ён нібы абяцае паказаць уваходы і выхады з лабірынта сэнсаў.

Часам сустрэнем гратэскныя матывы і колеры: аўтар не згодны з засмечанасцю ў нашых душах і ў свеце. Перад намі кампазіцыя, створаная групай «Тэ-арт»: антычны торс побач з паламанай «тэлескрыняй». Антычнасць — розум, гармонія, духоўнасць — нібы пратэстуе супраць прадмета сучаснага культу.

Побач з торсамі — асобныя канечнасці. Сёй-той нам казаў: навошта «расчлянёнка» на ўваходзе? Але ж тут нібы этапы ўзыходжання да пэўнага вобраза.

**— На гэтай канапе, здаецца, нешта зусім не падобнае да «ўзыходжання»...**

— «Ганна Карэніна» — прачулая інсталяцыя жаночага кахання. Жанчына, якая аддала пачуццям усю сябе, згарэла ў іх, зруйнавала сябе.

**— Я бачу святога Себасцьяна — класічны вобраз. Які сэнс пераўвасабляць яго ў «постнекласічным» рэчышчы?**

— Усё, што перажывалі «тады», перажываем і мы цяпер. Сучаснаму мастаку вобраз Себасцьяна асабліва блізкі: як і святы, ён пакутнік, часам — выгнаннік, бо яго стаўленне заўсёды будзе крытычным у адносінах да рэчаіснасці.

Вось «Блакітны пакой» з палотнамі Паўла Шапо. Чаму пакой блакітны? Ён мусіць перадаць светла-разняволены (як «блакітная мара») настрой: уражанні мастака ад Індыі. У час візуалізацыі дакладным малюнкам не ўразіш, трэба перадаваць пачуцці.

Тут інсталяцыя «папяровага пакоя» — зноў аб'ект «Тэ-арта». Ён увасабляе свет, пабудаваны з паперы, які жыве паперай — у літаральным і метафарычным сэнсе. Свет паперы газетнай, грашовай, каўбаснай... Часам людзі жывуць у ёй, нібы ў кары дрэва. Увогуле, папера — шматслойная метафара.

**— Гэта далёка не адзіны аб'ект, створаны, так бы мовіць, з адпрацаванай сыравіны. Часам яны нават выглядаюць узнёсла...**

— Вы бачыце часткі праекта «Мастацтва і экалогія». Ён мусіў паказаць, што з «утылю» можна і трэба ствараць арт-аб'екты. Выйграе і экалогія, і мастацтва: атрымліваючы абсалютна новы матэрыял, яно мусіць раскрыцца паўней. У металічным ломе можна разглядзець зерне чагосьці вытанчанага. У кіламетрах магнітнай плёнкі — ніці, якія звязваюць сусвет. Такая, дарэчы, вызначальная ідэя твораў Валянціна Борздага. Паглядзіце на гэты быццам выпадковы натоўп: кожны ў ім існуе не паасобку. Магнітныя ніці сімвалізуюць сувязі, якія мы бачым (асабістыя, сацыяльныя), і нябачныя сувязі.

**— Мне пашчасціла на «Ночы музеяў» пачуць ад самога мастака «тлумачэнне» яго твора. Перад намі яшчэ і сувязь усіх створаных ім аб'ектаў (яны дарагія яму, як могуць быць дарагія людзі) з усімі перыядамі яго творчасці.**

— Так, можа быць і некалькі ўзроўняў сімволікі. Тое ж можна сказаць пра большасць твораў, калі іх грунтоўна абдумаць і шчыра адчуць. Бачыце, ёсць рафінаванае мастацтва, быццам прыгожае, але ўнутры — пустое. Часам пра яго кажуць як пра эталон, а астатняе, маўляў, трэба аддаваць анафеме. Але ж мастацтва — перадусім адкрытасць, шчырасць. Хаця б перад самім сабой. Гэта нібы шлях да сябе.

Сучаснае мастацтва — пратэст супраць звыклага, таго, што «прыелася». Мастак не хоча жыць толькі тым жыццём, якое навязвае яму большасць. Няхай ён не можа адысці ад прагматычнага соцыуму, але ён можа штосьці супрацьпаставіць яму.



Фота Кастуся Дробава

Група «Тэ-арт». «Papers».



Фота Кастуся Дробава

Валянцін Борзды. Кампазіцыя з праекта «Мастацтва і экалогія».



Фота Кастуся Дробава

Кампазіцыя групы «Тэ-арт» са скульптурай Рамана Заміроўскага.

*Унікальны праект*

# Сучаснасці — пра вайну

Чым далей па часе падзеі Другой сусветнай вайны і Вялікай Айчыннай, тым цяжэй уяўляецца-ўсведамляецца іх жахлівая сутнасць. Сыходзяць жывыя сведкі, не кожны ўспрымае сэнс помнікаў і мемарыялаў, але, здаецца, больш за ўсё нестае адэкватнага мастацтва на ваенную тэму: кіно, драматургіі, літаратуры. На сцэне яна ўвогуле не прынятая: «несцэнічна», напэўна, але ніхто ж не кажа, што вайна — гэта толькі баталіі і бамбёжкі. Кіно апошнім часам рамантызуе тэму вайны ў найгоршых традыцыях Галівуда: пры словах «сучаснае кіно пра вайну» так і бачыцца межавы слуп у абдымках бадыгага героя персанажа Сяргея Бязрукава. Літаратура... Пра яе якраз і гаворка.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

Маюць рацыю тыя, хто сцвярджае: ва ўмовах, калі найноўшая літаратура амаль не закранае гэтую тэму (па якіх прычынах — асобная размова), трэба актыўна перавыдаваць найлепшыя творы мінулых гадоў.

Лёгка перавыдаць, ды цяжка чытаць. Далёка не ўсё, што выйшла з-пад пяра нават найлепшых творцаў, успрымаецца сёння з належным уражаннем. Але менавіта пра ўражанне (жаху, агіды, пратэсту) як падставу захавання Памяці могуць дбаць перавыданні. Памяць пра высакароднасць подзвігу (прыярытэтны змест выданняў мінулага часу) — крыху іншая справа: такую Памяць мацуюць помнікі-мемарыялы Перамогі, наўрад ці здольныя страціць актуальнасць. Памяць пра веліч захоўваецца ахвотней і жывей даўжэй за «ніз» вайны (У. Гніламёдаў), яе паўсядзённы боль, жах і бруд.

Пытаюся ў студэнтаў-журналістаў (аўдыторыя рэпрэзентатыўная: большасць прагне інфармацыі, і пра вайну ў тым ліку): "Якія творы на ваенную тэму вы будзеце чытаць, а якія — не?» — «З пафасам — не», — адказваюць. Чытацца будуць творы, дзе паказаны просты чалавек на вайне, неабавязкова герой: каб была псіхалагічная матывацыя ўчынкаў, напружанасць выбару, да таго ж — неардынарная стылістыка, эфект прысутнасці — нібы сам апынуўся ў тых умовах.

Моладзь, студэнты — максімалісты, хто ж не ведае? Няма ваеннага твора, пачынаючы з вытокаў традыцыі гэтай тэмы («Вайна і мір» Л. Талстога), без «ідэалагічнай» асновы наконт бескампраміснага стаўлення да абароны Айчыны. Няма вайны ў літаратуры — сапраўднай вайны — без гістарычнага падтэксту, без гераічнага ўчынку (нават калі гэта гераізм нескаронай ахвяры). Усё гэта ёсць і ў творах класікаў, якія, на жаль, пайшлі з жыцця, і ў творах тых, хто яшчэ з намі і сам нясе аўру мужнасці і нескаронасці, веліч подзвігу Перамогі і проста здольнасці выжыць і выстаяць. Як прыклад — творчасць Алеся Савіцкага і яго раман «Обаль» (1989), падрыхтаваны да перавыдання ў РВУ «Выдавецкі дом «Звязда». Пра маладых падпольшчыкаў, равеснікаў сённяшняй студэнцкай моладзі, якая прагне «эфекту прысутнасці». Няхай паспрабуе сябе ўявіць у тыле ворага, ва ўмовах неабходнасці «выбару» (цярпець або супрацьстаяць, выжыць ухілянчыўшы або памерці з годнасцю), уявіць сябе ў псіхалагічным і фізічным напружанні руху «па жэрдачцы над вогнішчам», знойдзе адказы на шматлікія пытанні, якія сучасная мова называе экзістэнцыяльнымі.

Як з нуля, ва ўмовах акупацыі, калі табе ўсяго дваццаць, стварыць паўнавартасную, дзейсную падпольшчыцкую арганізацыю, прызначэнне якой — не толькі наносіць матэрыяльны, стратэгічны ўрон ворагу, але і знішчаць яго маральна? Хто тыя людзі, што аказаліся здольнымі на самаахвярны подзвіг (90 % удзельнікаў Обальскага падполля былі расстраляныя і закатаваныя фашыстамі)? Хто іх родныя, тыя маці, якія прынеслі сваіх дзяцей у ахвяру — дакладна з адпаведнасцю гісторыі Аўрама і Ісака, г. зн. веры ў праведнасць ахвярапрынашэння? Як вытрываць такую веру?.. Пытанні, як кажуць, не для слабых нерваў: якраз для моладзі нашых дзён, загартаванай у «штодзённай мітусні», — нагода «сублімiраваць» стрэс.

Творы, падобныя да «Обалі», вартыя перавыдання ў першую чаргу яшчэ па адной важкай прычыне: за імі стаіць жывы аўтар-сведка, наймацнейшы сродак піяру ў аўдыторыях самага рознага фармату. Так, гэтыя творы, паколькі




яны стаяць дужа далёка ад тэмпарытму, вобразу мыслення чытача глабалізаванай эпохі, трэба менавіта піярыць — разумна і вытанчана падаваць (не «прапагандаваць»!), прапаноўваць у рэчышчы сучасных прэзентацыі-імпрэзы, выкарыстоўваючы і розныя віды мастацтва, і разнастайныя масмедыя. Выдадзеныя з улікам апошняй пазітыўнай тэндэнцыі стварэння кніжнага прадукту як артэфакта, мастацкай з'явы, улічваючы дызайн, паперу, ілюстрацыі, яны знойдуць чытача.

*Масты садружнасці*

# Залатыя рукі таджыкаў



У штаб-кватэры СНД у Мінску прайшла прэзентацыя кнігі «Залатая скарбніца таджыкаў».

**Сяргей ШЫЧКО**

Праект, які быў прадстаўлены ўвазе дыпламатаў, навукоўцаў і журналістаў, — унікальная з'ява ў таджыкскім кнігавыданні, а таксама ў таджыкскай культуры. Кніга прысвечана дэкаратыўна-прыкладному мастацтву старажытнага народа. У багата ілюстраваным выданні сабрана інфармацыя пра розныя віды рамёстваў, пададзены звесткі пра плён працы таленавітых майстроў розных пакаленняў. Аўтар выдання — міністр замежных спраў Рэспублікі Таджыкістан Хамрахон Зарыфі. Даследчык здолеў паказаць шырокую палітру здзяйсненняў таджыкскага народа, адлюстраваў талент сыноў і дачок сваёй Айчыны.

Пра тое, што кніга набыла шырокага чытача, неаднойчы перавыдавалася, гаварылі на прэзентацыі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Таджыкістан у Рэспубліцы Беларусь Казідаўлат Каімдодаў, першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец, сакратар Саюза пісьменнікаў Георгій Марчук, дырэктар-галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда», старшыня таварыства «Беларусь — Таджыкістан» Алесь Карлюкевіч, доктар філалагічных навук Іван Саверчанка, доктар гістарычных навук Аляксандр Лакотка і іншыя. Беларускі кінарэжысёр-дакументаліст, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Таджыкістан Маргарыта Касымава вобразна ахарактарызавала выданне як песню, як гімн, прысвечаны залатым рукам таджыкаў. І з гэтым нельга не пагадзіцца. Настолькі ўражлівай падаецца кніга, у якой адлюстраваны ўся веліч, уся ўзнёсласць, укладзеныя лепшымі сынамі і дочкамі старажытнага народа ў дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, а фактычна — у прыгожае напісанне біяграфіі сваёй Айчыны.

# Крэатыўны маркетынг ад «Вожыка»

Першы летні нумар «Вожыка» не пакіне раўнадушным ніводнага чытача і падпісчыка! Вядомыя мастакі-карыкатурысты Алег Гуцол, Мікола Гіргель, Пятро Козіч, Аляксандр Каршакевіч прадэманструюць, як дзейнічае крэатыўны маркетынг пры продажы семак, чым карысны ўлетку распродаж ноўтбукаў, чаму ідзе дождж, што можа рабіць у халадзільніку кот і ад чаго загінуў Кашчэй Бессмяротны.

Пісьменнік-гумарыст Міхась Сліва прапануе актуальны для лета «Рэцэпт для пахудзення», Галіна Сутула параіць, як зрабіць «Еўрарамонт», а Аркадзь Жураўлёў учыніць «Самасуд». Паэты не застануцца ўбаку: Яўген Хвалей запусціць «Вершастрэлы», Міхась Уласенка «падсыпле» «Церушынак», Мікола Чарняўскі раскажа пра «Малакасоса», Аркадзь Нафрановіч — пра «вясковую і талковую», а Лявон Анціпенка — пра «Неверагоднае рашэнне», якое прыняў Леў у дачыненні да сваёй ліслівай намесніцы Лісы. Рубрыка «Вожык» у асобах» прысвечана вядомаму сатырыку і гумарысту Уладзіміру Правасуду. «Магчыма, само прозвішча паклікала паэта на сатырычную дзялянку. У. Правасуд не меў псеўданіма. Калі той-сёй цікавіўся: «Чаму?», ён з гумаркам адказваў: «Навошта? Такое цудоўнае прозвішча… У маёй роднай вёсцы Подгаць, што на Гомельшчыне, шмат хто раіў, каб я суддзёй стаў ці пракурорам». Сёлета, у чэрвені, яму магло б споўніцца 80 гадоў...




У фотаіранесцы «Ні да вока, ні да бока» Наталля Кульгавая падслухала, пра што размаўляюць у шафе Паліто, Спадніца, Касцюм ды іншае адзенне, калі застаюцца адны, і прадставіла поўную фотасправаздачу пра апошнія модныя тэндэнцыі, а ў мініфельетоне з назвай «Хто гарэлку любіць — той сам сябе губіць» аўтар зірне сатырычным вокам на таго, хто калі «нап'ецца, дык і з царом паб'ецца, а як праспіцца, дык і курыцы баіцца». Рубрыка «Мабільны фотапрыкол» паведаміць, як нашы чытачы «каштуюць» шкарпэткі і думаюць за Алёшу Паповіча, а ў рубрыцы «Іголкатэрапія» «Вожык» раскрые схему незаконнага амаладжэння і некаторыя мабільныя «сакрэцікі», а таксама раскажа, калі дзве хлусні «каштуюць» дзве крымінальныя справы.

Знайшлося месца ў шостым нумары часопіса і для традыцыйных «Парнаскіх жартаў», і для «Калючкі». Таксама можна «пагартаць» «Вясёлую пошту», прыгадаць беларускі народны гумар (шаптуха з аднаймення казкі вельмі ж нагадвае некаторых сучасных лекараў), пачытаць дасціпныя показкі.

Багата ў нумары і афарызмаў. Хочаце некалькі «на дэсерт»? Калі ласка! Айчынныя — «Спачатку чалавек вучыцца хадзіць, затым — ездзіць, а потым марыць, каб больш ляжаць» (Дунька Шып), «Серыял па-бразільску: "Жанчына з водарам кавы". Серыял па-беларуску: "Жанчына з водарам бульбы"» (Юрый Кучура), замежныя — «Жанчына, якая ніколі не бачыла свайго мужа, калі той вудзіць рыбу, не ўяўляе, за якога цярплівага чалавека яна выйшла замуж» (Эдгар Хау, амерыканскі пісьменнік), «Рэклама — гэта сродак прымусіць людзей мець патрэбу ў тым, пра што яны раней і не чулі» (Марці Ларні, фінскі пісьменнік-сатырык), «Ніхто так не мае патрэбы ў адпачынку, як чалавек, які толькі што вярнуўся з адпачынку» (Элберт Хабард, амерыканскі пісьменнік). Адпачывайце з «Вожыкам», і вы заўсёды будзеце вясёлымі, бадзёрымі і шчаслівымі!

**Юрый ВЯРБІЦКІ**

# «Не пішы, як Быкаў»

**Іван СТАДОЛЬНІК**

Для мяне і сёння застаецца загадкай, чаму некалькі дзясяткаў гадоў таму Васіль Быкаў трапіў у няміласць да савецкай улады. Можа, не любіла яна Васіля Уладзіміравіча найперш таму, што ён і ў сваіх прамовах, і ў кнігах трымаўся толькі праўды. А праўда тагачаснага жыцця была даволі горкай, асабліва праўда пра вайну.

Думаю, вяршыняй ганення на Быкава былі сямідзясятыя гады. Пра гэта я мяркую па адной акалічнасці. 19 чэрвеня 1974 года Васілю Уладзіміравічу споўнілася 50 гадоў. Ні ў друку, ні па радыё, ні тым больш па тэлебачанні амаль што ні слова не было пра гэта.

На пасяджэнні літаратурнага аб'яднання «Наддзвінне», якое я ў той час узначальваў, усе як адзін рашылі пасляць Быкаву віншавальную тэлеграму. Гэту ганаровую і сапраўды адказную справу даручылі мне і Герману Кірылаву, намесніку рэдактара аб'яднанай газеты «Сцяг камунізму». Я невыпадкова напісаў «адказную». Бо за гэты па тым часе крамольны ўчынак мы з Германам маглі несці адказнасць перад гаркамам і райкамам КПБ. Нам «свяцілі» як мінімум вымовы па «партыйнай лініі», бо я і Герман былі членамі КПСС. Але неяк усё абышлося.

Адрас пісьменніка ніхто з нас не ведаў, і паслалі мы віншаванне на адрас Саюза пісьменнікаў БССР. Праз многа гадоў, калі мы з Васілём Уладзіміравічам сустрэліся ў Доме літаратара на нейкай нарадзе, я спытаўся ўжо ў народнага пісьменніка Беларусі, лаўрэата Ленінскай прэміі, ці атрымаў ён тую віншавальную тэлеграму? Васіль Уладзіміравіч сказаў, што і ў вочы яе не бачыў.

Праз некалькі гадоў пасля пяцідзесяцігоддзя Быкава раптам пачалі ахвотней друкаваць, перакладаць творы на іншыя мовы. І ён стаў часцей сустракацца з чытачамі.

Неяк пад восень 1975 ці 1976 года Васіль Уладзіміравіч разам з іншымі пісьменнікамі прыехаў у Полацк. Сустрэча адбывалася ў гарадскім Доме культуры. Я ішоў туды з інструктарам ці загадчыкам аддзела прапаганды гарадскога камітэта партыі. Размаўляючы з ім, я зразумеў, што адносіны ў многіх партыйных чыноўнікаў да пісьменніка Васіля Быкава па-ранейшаму заставаліся прахалоднымі, калі не сказаць непрыязнымі ці нават варожымі.

У той час я ўжо шмат дзе друкаваўся: у сваёй полацкай газеце, у абласной «Віцебскі рабочы», у рэспубліканскіх газетах і часопісах. І вось па дарозе на сустрэчу з Быкавым партыйны чыноўнік чамусьці пачаў мяне хваліць:

— Ты добра пішаш, Іван Канстанцінавіч. Малайчына. Толькі ніколі не пішы, як Быкаў.

Сказанае ім уразіла мяне і запомнілася назаўсёды. Я ўпэўнены, што гэты гаркамавец ніколі не чытаў Быкава і меркаваў пра творы пісьменніка з пачутага ў свой час на нейкай высокай нарадзе ці з вуснаў вышэйшага за яго начальніка.

На гэтай сустрэчы мы і пазнаёміліся з Васілём Уладзіміравічам.

Праз які год пасля той сустрэчы з Васілём Быкавым адбылася новая, у тым жа Полацкім гарадскім Доме культуры. Васіль Уладзіміравіч не толькі сказаў добрыя і прачулыя словы пра Полацк і палачан, але і прачытаў гумарыстычнае апавяданне. Прысутныя заўзята пляскалі ў далоні, а прадстаўнікі гарадскіх улад падносілі кветкі і казалі добрыя словы. А ўвесь вечар той самы гаркамаўскі чыноўнік, які не так даўно казаў мне, каб не пісаў, як Быкаў.

У канцы прывітальнай прамовы ён звярнуўся да пісьменніка:

— Нізка кланяемся Вам, Васіль Уладзіміравіч!

Падумалася: «Вось як мяняюцца людзі…»

Пасля сустрэчы ладзілася вячэра ў прыгарадзе Полацка — Баравусе-2. Адтуль мы вярталіся дамоў даволі позна, калі было ўжо цёмна. Выдатны фотамастак і наш агульны сябра Кастусь Жарнасек, чалавек няўрымслівы і здатны да розных прыдумак, заўважыўшы пры дарозе вялізны камень, прапанаваў:

— Давайце, хлопцы, па грамульцы. У мяне якраз ёсць.

Усе мы моўчкі паглядзелі на Васіля Уладзіміравіча: што скажа ён?

— Я думаю, слушная прапанова. Давайце! — адказаў славуты пісьменнік.

Мы так і зрабілі.

…З 1 верасня 1980 года я стаў працаваць у часопісе «Вожык». У апошнім нумары года ад мяне як рэдактара аддзела літаратуры запатрабавалі ці інтэрв'ю, ці выступленні дзеячаў літаратуры, культуры і навукі з апаведам, якім сыходзячы год стаў адметным, знакавым і ўсцешным для іх. Такіх людзей набралася шмат. Але я выбраў з пісьменніцкага асяроддзя Васіля Быкава, якому ў той год было прысвоена ганаровае званне народнага пісьменніка Беларусі.

Я патэлефанаваў Васілю Уладзіміравічу, расказаў, што і да чаго, і папрасіў выбраць хвіліну-другую для сустрэчы. Народны пісьменнік ахвотна згадзіўся, толькі з умовай, каб перад публікацыяй я даў пачытаць запісанае. Я так і зрабіў.



Працытую гэтую прамову:

«Я ўдзячны 1980-му году за тое, што і мінуты спакою не даваў мне, усё падганяў нешта рабіць і ў мастацкай прозе, і ў публіцыстыцы, і ў літаратурнай крытыцы, выступаць на тэлебачанні не толькі дома, але і ў гасцях — у Балгарыі, Чэхаславакіі. Як не люблю даваць розныя інтэрв'ю карэспандэнтам, але ж даваў і карэспандэнтам беларускіх выданняў, і саюзных.

Вельмі радуюся поспехам таварышаў па пяру і таму з задавальненнем расказаў саюзнаму чытачу пра новыя аповесці нашага беларускага пісьменніка А. Адамовіча і рускага празаіка Р. Бакланава.

Рух — гэта жыццё, а жыццё для мяне — гэта творчасць. І я стараўся рухацца. Ездзіў па роднай Беларусі, быў за мяжой. Цяжка перадаць тое захапленне, якое напаткаў у Чэхаславакіі, сустракаючыся з яе людзьмі, былымі партызанамі, удзельнікамі антыфашысцкага супраціўлення.

Добрай творчай устраскі дала Усесаюзная канферэнцыя пісьменнікаў у Баку, што праходзіла зусім нядаўна, у кастрычніку.

А тут, перад самым сваім адыходам, 1980 год прынёс радасную вестку, што мне прысвоена ганаровае званне народнага пісьменніка Беларусі. Ці можа быць большая радасць, як жыць і тварыць для народа. Так што я азадачаны ўжо не толькі на новы, 1981 год, але і на ўсю будучую пяцігодку, на ўсё жыццё.

Васіль Быкаў, народны пісьменнік Беларусі».

Вядома, я не пісаў, не пішу і не буду пісаць, як Быкаў. Кожны пісьменнік піша толькі як можа, як здолее, як толькі Богам дадзена гэта яму аднаму і нікому іншаму. Але каб пісаць, як Быкаў, трэба не толькі талент мець, сваю пазіцыю, але і смеласць, мужнасць. А апошняе не кожнаму ўласціва.

## З успамінаў жыхароў Ушаччыны

### ВЫКРАДАННЕ НЯМЕЦКАГА КАМЕНДАНТА З КУБЛІЦ

Вельмі ўжо прыйшлася даспадобы каменданту маладая і прыгожая мясцовая настаўніца. Яна добра валодала нямецкай мовай і пры сустрэчы з камендантам ветліва ўсміхалася. Партызаны папрасілі настаўніцу, каб яна запрасіла каменданта да сябе ў хату на дзень нараджэння.

Камендант прыйшоў адзін, без аховы. Партызаны, што схаваліся за печкай, звязалі яго, вывелі з хаты, паклалі ў санкі, накрылі кажухом, каб не змёрз. З сабой узялі і настаўніцу, каб перакладала. Больш іх ніхто не бачыў.

Раніцай наступнага дня бацька настаўніцы паведаміў у камендатуру, што нейкія бандыты забралі яго дачку і каменданта.

Нямецкае начальства, якое прыехала з Ушач, загадала расстраляць мясцовых паліцаяў і немцаў, што ахоўвалі камендатуру. Праз нейкі час наляцелі самалёты і пачалі бамбіць вёску…

### ВЁСКА НАДАЗЁРНАЕ КАЛЯ ВОЗЕРА ШО

Вяскоўцаў папярэдзілі, што ідуць карнікі. Людзі схаваліся ў лесе. Немцы натрапілі на зямлянку, у якой хаваліся маладыя хлопцы, пагналі іх да ракі Шоша, паставілі ў рад на беразе і пачалі страляць. Самым апошнім стаяў хлапчук, хударлявы і хваравіты. Пабачыўшы, што яго сябры падаюць, падкошаныя кулямётнымі чэргамі, ён кінуўся ў рэчку і паплыў на той бераг — кулі яго не зачапілі. Пасля ён, адзіны, хто ўратаваўся, расказваў, як сядзеў па шыю ў балоце і чакаў, пакуль пройдуць немцы…

### ПРАРЫЎ БЛАКАДЫ КАЛЯ УШАЧ

Немцы акружылі партызан і мясцовых жыхароў у лесе непадалёк ад Ушач. Са станцыі Зябкі па акружэнцах білі гарматы з бронецягніка: гінулі людзі, гарэў лес. Партызанскае камандаванне аддало загад ісці на прарыў. Рачулка каля вёскі Паперына была чырвонай ад крыві. Тыя, хто выжылі, не змаглі забыцца пра той дзень, а велічны мемарыял «Прарыў» — даніна памяці тым, хто загінуў за перамогу.

### НЕАДПРАЎЛЕНЫ ЛІСТ

Даўно скончылася вайна, але сляды яе засталіся.

Нарыхтоўшчыкі лесу спілавалі старое дрэва. Калі яно ўпала на зямлю, з кроны пасыпаліся чалавечыя косткі і рэшткі адзення. Выпаў аднекуль і пажоўклы аркуш паперы. Гэта быў ліст закаханага юнака да сваёй дзяўчыны. Дзякуючы пазначанаму зваротнаму адрасу даведаліся пра яго імя.

Аказалася, што калі карнікі прачэсвалі лес, ён забраўся на высокае дрэва, спадзеючыся, што немцы яго не заўважаць, аднак аўтаматная чарга дастала яго і там. Так ён і застаўся на гэтым дрэве на доўгія гады…

**Запісаў Станіслаў АБАРА**

## На радзіме пісьменніка









Фота Станіслава Абары

# Паэзія маладых: агледзіны

Якія тэмы хвалююць маладых беларускіх паэтаў? Да якіх жанраў звяртаюцца яны ў сваёй творчасці? Схіляюцца да заходняга верлібра ці да больш распаўсюджанага ў ўсходзе рэгулярнага (рыфмаванага) верша? Складана адназначна адказаць на гэтыя пытанні. У творчасці, як і ў асабістых стасунках, усё надта індывідуальна. Але ўсё ж ёсць шляхі намацвання «агульных кропак». Серыя «Маладая паэзія Беларусі», рэдактарам якой з'яўляецца таксама малады паэт Рагнед Малахоўскі, — адзін з такіх шляхоў. Вось і атрымліваецца ў выніку, што мы не толькі знаёмім чытачоў «Кніжнага свету» з новымі выданнямі серыі, што выйшлі ў ТАА «Харвест», але і робім своеасаблівыя агледзіны.

## «НЕКРАНУТЫ ВЫРАЙ МОЙ»




Хай не крыўдуюць паэты, чые кнігі я разгледжу ніжэй, але калі б мне было прапанавана скласці гэтыя чатыры выданні ў своеасаблівы рэйтынг, то паэтычны зборнік **Насты Кудасавай «Рыбы»** я, не вагаючыся, паставіла б на першае месца. І вось чаму. Калі параўноўваць новую кнігу аўтаркі з яе дэбютам — зборнікам «Лісце маіх рук», то ў ёй, безумоўна, адчуваецца рух наперад, развіццё паэтычнага таленту Кудасавай. Тут няма «прахадных», зацягнутых вершаў, усё граматна, лаканічна, прыгожа і па тэме. І нават старыя вершы поруч з новымі нібыта ўзвышаюцца, набываюць дадатковыя глыбокія сэнсы.

Адны скажуць, што ў «Рыбах» зашмат жаноцкасці, другія, наадварот, падкрэсляць, што яе тут мала. А мне падаецца, што «доза» жаноцкасці тут якраз вымерана з дакладнасцю да грама. Кнігу прыемна чытаць, адчуваць, што ў аснове кожнага твора — не проста перажыванні, але і актыўная праца свядомасці, мозгу. У той жа час паэзія Насты Кудасавай разам з агульным моцным інтэлектуальным фонам удала «замяшаная» на шчырым пачуцці, мяккасці. Але гэта зусім не «жаночыя вершы», гэта творы паэта, дакладна прадуманыя і вывераныя. Менавіта паэтам сябе называла і Марына Цвятаева — адзін з любімых аўтараў Кудасавай (на што ўказвае і досыць вялікая колькасць вершаў-прысвячэнняў).

Тут няма юнацкага максімалізму. Ёсць толькі розум, багатая міфалагічная аснова, роздум, нейкая невытлумачальная жаночая мудрасць. Тэмы, якія закранае аўтарка ў сваіх творах, досыць разнастайныя: каханне, смерць, самагубства, мацярынства… І гэта добра. А яшчэ вершам Насты Кудасавай уласціва яркая, незвычайная вобразнасць — што, на маю думку, самае каштоўнае ў паэзіі:

*Поўня на тое і поўня,*
*каб поўнаю быць,*
*Каб не застацца паловай,*
*самотнай паловай.*

Магчыма, гэта не самы яскравы вобраз з кнігі, але як прыгожа, як па-жаноцку.

## «НАПРАСТКІ ЦЕРАЗ СЛОВЫ»




«Аднаму з маіх Герояў ёсць на што спадзявацца», — калісьці спяваў у сваёй песні беларускі панк-гурт «Крок». Менавіта гэты радок мне прыгадаўся пасля знаёмства з дэбютным зборнікам вершаў **Вольгі Гронскай «АдВольная міфалогія»**. Але ў Гераіні паэткі зусім іншы лёс: думаецца, ёй можна толькі спадзявацца на тое, што аўтарка скончыць гульню ў хованкі з сабой, і Гераіня, намаляваная толькі як контур, як чарнавік, з часам ператворыцца ў чыставік, ды яшчэ і размаляваны яркімі фарбамі.

Што я маю на ўвазе? А тое, што праз увесь зборнік скразной лініяй праходзіць тэма (гэта нават не тэма, а пачуццё, што чытаецца між радкоў) нявызначанасці, дваістасці, як у каханні, так і ў жыцці. Сысці ці застацца? Сапраўднае ці ілюзорнае? Прадмет (асоба) ці яго адбітак у люстэрку? Нават тое, што кніга падзелена на дзве часткі — беларуска- і рускамоўныя вершы, хай ускосна, але сведчыць на карысць маёй здагадкі.

Магчыма, такое ўражанне ад паэзіі Вольгі Гронскай узнікае з-за таго, што ў кнігу ўвайшлі вершы, напісаныя цягам аж 10 гадоў — у перыяд з 2001-га па 2011-ы. Гэта не толькі час станаўлення аўтарскай індывідуальнасці творцы, але і час развіцця Вольгі як асобы. Адсюль — і хістанні, і ілюзія не чалавека, а толькі яго «контуру». Адсюль — і адчуванне тэматычнай расплывістасці, і адсутнасць структурнай цэласнасці кнігі.

Хоць, у цэлым, вершы Вольгі Гронскай зусім не благія. Хутчэй, наадварот — якасныя і глыбокія. Трошкі міфалогіі, кава, шакалад, люстэркі, сустрэчы і расстанні… І вобразы захопліваюць. Вось хаця б намаляваныя ў гэтых радках:

*Заслухаўшыся музыкай вачэй,*
*Саступіўшы жаданням колеру*
*ветру над морам,*
*Я бачу цябе скрозь*
*заплюшчанасць веяў,*
*Адчуваю ўсмешку,*
*што спіць на маім плячы.*

Думаецца, наступная кніга Вольгі Гронскай (спадзяюся, яна пабачыць свет ужо хутка) дакажа, што паралельныя лініі ўсё ж перасякаюцца, і яе Гераіня больш не будзе скардзіцца на адсутнасць фарбаў.

## ВЫЗВАЛІСЯ, КАБ ЗРАБІЦЬ ЛЕПШ!




Калі б я, як у школе, на ўроку літаратуры пісала сачыненне на тэму: «Што я хацеў бы сказаць пісьменніку N», то **Алесю Бараноўскаму** пра яго кнігу «**Дыяментавы німб для анёла**» я напісала б: «Вызваліся, каб зрабіць лепш». Нават клічнік паставіла б у канцы фразы і вынесла б яе ў загаловак!

Вызваліцца — ад засілля класікі, ад эстэтыкі, рытмікі і вобразнасці Ясеніна, Пушкіна, Высоцкага, Танка… Вызваліцца ад абавязковасці рыфмаў (крый бог — дзеяслоўных), роўных па даўжыні радкоў, ад таго, што вывучалі на занятках па тэорыі літаратуры (асабліва ад тэм, прысвечаных вершаскладанню)… Вызваліцца ад абавязковасці маралізатарства і прамаўлення тэмы і ідэі, ад «аўтабіяграфічных» расповедаў пра свайго лірычнага героя… Бо гэта забівае асобу аўтара, сцірае ў яго паэзіі прыкметы часу, індывідуальныя рысы, ператварае маладога яшчэ творцу са сваімі турботамі і памкненнямі ў безузроставага «паэта». Я бяру гэтае слова ў двукоссе, бо сёння толькі такі «паэт» можа, да прыкладу, пісаць вершы-трэнасы пра тое, што ён адзіны рамантык у нашым атэістычным і бяздушным свеце…

*А горад мне запальвае агні.*
*У ім — свой сум,*
*сваё зачараванне.*
*І я, не дачакаўшыся світання,*
*Знікаю у бязмежжы цішыні.*

Анатацыя да кнігі паэзіі Алеся Бараноўскага сцвярджае, што вершы маладога паэта — яго «спроба паразважаць над таямніцамі быцця, законамі людскіх адносін, светаўпарадкавання. Не абмінае малады творца ні спрадвечных каштоўнасцей — сям'і, Радзімы, сяброўства, — ні праблему пераемнасці пакаленняў. Лірычны герой А. Бараноўскага верыць у чалавечнае ў чалавеку, не замыкаецца на асабістых перажываннях — ён адкрыты свету. І хоць нярэдка вершы паэта напоўнены сумненнямі, сумам, роспаччу, нават адчаем, усё ж у сарцавіне яны аптымістычныя, жыццесцвярджальныя».

Усё правільна, але гэта не анатацыя на кнігу маладога творцы, а хутчэй агульная характарыстыка паэзіі класіка. Вызваліце хлопца! Адкуль у маладога чалавека параўнанне: «*А мы, як фотаздымкі франтавыя, / Пацíху будзем гаснуць і цьмянець*»?

Я не імкнуся пакрытыкаваць, пакрыўдзіць, навучыць, проста жадаю паказаць, што маладому творцу варта выйсці за звыклую зону камфорту, паспрабаваць нешта новае — аёй, крый божа! Напісаць верлібр! А вось — атрымаецца. І веданне класікі спрацуе па-новаму, і вершы з наследаванняў і перайманняў ператворацца ў выдатныя постмадэрновыя творы з вытанчанымі алюзіямі і рэмінісцэнцыямі. Варта толькі забыцца на сваю «класічнасць» і паспрабаваць!

## МОСТ — «АД СЯБЕ ДА СЯБЕ»

Роздумам над сэнсам чалавечага існавання, над адметнасцямі фарміравання светапогляду асобы, пераходам з дзяцінства ў даросласць поўніцца кніга паэзіі **Марыны Помаз «Сиреневое солнце»**. Гэтая кніга — адзіная цалкам рускамоўная ў прадстаўленай падборцы выданняў. Яна прадстаўляе хутчэй традыцыйную паэзію, чым эксперыментатарскую. Тут вы не знойдзеце зухаватых верлібраў, лаканічных хоку і выкшталцоных вобразаў, але пабачыце шчырыя пачуцці, развагі, перажыванні.

*Отозвались дремотные пущи.*
*Лёд разбив, закричали реки,*
*Зарыдало поле… А песня,*
*Промелькнув,*
*уносилась в Вечность.*




Я нездарма тут прыводжу гэтую цытату. Бо аўтарка апроч таго, што піша вершы, складае таксама песні, балады, песеннае суправаджэнне для тэатральных пастановак. Марына Помаз, псіхолаг па адукацыі, займаецца яшчэ і кніжнай ілюстрацыяй, іканапісам, таму думкі пра Боскае і Вечнае ёй зусім не чужыя. Яе музычна-паэтычныя кампазіцыі напісаныя не толькі для таго, каб суправаджаць тэатральныя пастаноўкі, — яны распавядаюць і пра слаўных асоб і падзеі беларускай гісторыі. Да прыкладу, «Песня пра Рагнеду», «Воінам Грунвальда».

«Сиреневое солнце» — другая па ліку кніга паэткі. Тут яна разважае пра спробы ўсведамлення свайго месца ў свеце, сваю сутнасць і прызначэнне як цягам зямнога жыцця, так і за яго гарызонтамі — у мінулым і будучыні.

***

Думаецца, цяпер мы крыху наблізіліся да адказу на пытанне: якая яна, маладая паэзія Беларусі? Разнастайная! І гэта выдатна, што кожны паэт мае свой адметны голас. Радасна, што маладыя творцы не баяцца эксперыментаў, што ўдала працуюць у абраным для сябе кірунку. А кнігі серыі «Маладая паэзія Беларусі» толькі дапамагаюць ім у гэтым — сцвердзіцца, даказаць сабе і астатнім, што яны на нешта здатныя. Бо гэта не жарты — выдаць першую кнігу ў самым буйным і ўплывовым выдавецтве краіны. Гэта дарагога вартае.

**Марына ВЕСЯЛУХА**



# Скарбонка дабрыні

**Ірына КАШУБА**

Міхась Пазнякоў — таленавіты паэт, празаік, перакладчык. Шматграннасць яго таленту вызначаецца непасрэднай злучанасцю з родным словам, імкненнем данесці да чытача самыя шчырыя пачуцці. Скарбонкай мудрасці і дабрыні можна назваць яго новую дзіцячую кнігу «Серабрыстыя чайкі», што не так даўно пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда». Яе складаюць арыгінальныя казкі і апавяданні, прысвечаныя дзецям-школьнікам.




Беручыся за чарговую кнігу для маленькіх, пісьменнік, вядома, разумеў, якую цяжкую задачу зноў ставіць перад сабой. Выхаванне дзіцяці словам мае асаблівае значэнне, і мастак сваімі творамі мусіць не толькі прапанаваць новаму пакаленню агульнапрынятыя нормы маралі, але і зацікавіць, пашырыць кругагляд дзяцей. Кніга М. Пазнякова праз зразумелую мову, яркія вобразы і адмысловыя падзеі здольна на ўздзейнічаць на свядомасць сваіх чытачоў, закласці пэўныя нормы і правілы іх паводзін, развіць найлепшыя чалавечыя якасці.

Кніга складаецца з трох частак. У першую ўвайшлі казкі. Творы гэтага жанру — літаратурныя ці народныя — насычаны мудрасцю, высокай паэтыкай, багаццем агульначалавечага зместу. Тэмы казак Міхася Пазнякова розныя. Некаторыя творы выкладзены ў вершаванай форме. Галоўныя героі — у асноўным жывёлы ці птушкі — надзеленыя мовай і чалавечымі якасцямі. У казках з кнігі «Серабрыстыя чайкі», як і ў народных, вырашаецца агульная задача — выхаваць сапраўднага чалавека, які здолее прайсці праз самыя складаныя выпрабаванні на жыццёвым шляху. Казкі Міхася Пазнякова вучаць школьнікаў мудрасці, чалавечай спагадзе, сяброўству, любові да роднай прыроды. Акрамя ўсяго, аўтар у займальнай форме тлумачыць дзецям, чаму, напрыклад, мядзведзі зімой спяць, а на Беларусі жывуць чорныя буслы і чырвоныя каршуны.

Другую частку кнігі складаюць апавяданні. Яны ўражваюць сваёй дасціпнасцю і ў той жа час вострым псіхалагізмам. Успаміны з дзяцінства пісьменніка, розныя жыццёвыя здарэнні не могуць не захапіць сваёй непасрэднасцю. Яны, як і казкі, садзейнічаюць выхаванню ў дзяцей міласэрнасці, спагадлівасці, узаемадапамогі, любові да працы.

Творы з апошняга раздзела пад назвай «З маміных аповедаў» таксама здольныя ўзрушыць чытача да глыбіні душы. Падзеі ваенных гадоў, расказаныя маці, назаўсёды запомніліся М. Пазнякову. Гісторыя пра перадачу хлеба партызанам, якая ледзь не каштавала маладой жанчыне і яе дзецям жыцця, дапамога немца матулі ды іншыя рэальныя здарэнні прымушаюць асэнсаваць становішча чалавека ў час вайны, зразумець яго ўчынкі, памкненні. Праз беларускае слова, якое раскрывае невычэрпнае багацце нашага народа, да маленькіх чытачоў даходзяць вечныя жыццёвыя запаветы: быць шчырымі, спагадлівымі, любіць Радзіму, берагаць яе прыроду.

Варта адзначыць, што кніга М. Пазнякова «Серабрыстыя чайкі» заслугоўвае ўвагі не толькі ў сваім тэматычным і функцыянальным плане. Яскравае мастацкае афармленне кнігі, змешчаныя ў ёй прыгожыя малюнкі валодаюць вялікай эстэтычнай вартасцю, здольны захапіць і ўразіць чытачоў.

Спадзяюся, што «Серабрыстыя чайкі» зоймуць дастойнае месца на паліцах хатніх бібліятэк. Кніга дазволіць і даросламу чалавеку на хвіліну адарвацца ад жыццёвых праблем, адпачыць душою ды часам задумацца.

# Казачны «Нафтаград»

**У выдавецтве «Калор» пабачыла свет чарговая кніга рэчыцкага пісьменніка-казачніка Анатоля Караленкі з сімвалічнай назвай «Нафтаград». Яе выхад прымеркаваны да 800-годдзя горада беларускіх нафтавікоў — Рэчыцы.**

**Андрэй МЯДЗВЕДЗЕЎ**

Ужо амаль чатыры дзесяцігоддзі Анатоль Караленка працуе ў жанры дзіцячай казкі. Цяпер ужо можна сцвярджаць, што ён, напэўна, адзіны пісьменнік, які піша казкі пра нафту. У 2011 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» пабачыла свет яго кніжка казак «Вясёлка чорнага золата», і вось ужо мы маем новы вялікі зборнік самых разнастайных тэкстаў. Акрамя таго, творы, якія выйшлі з-пад пяра Анатоля Караленкі, можна знайсці ў многіх школьных падручніках і чытанках.

У «Нафтаград» увайшло 140 дзіцячых казак і 50 апавяданняў ды абразкоў — у большасці сваёй пра здабычу нафты ў Беларусі, Азербайджане (тут Анатоль Захаравіч нарадзіўся, тут вучыўся майстэрству нафтаздабытчыка), Амерыцы, Украіне, Расіі і нават на планетах далёкіх галактык. Акрамя казак і апавяданняў у зборнік уключаны вершы, а таксама песні «Табе, Беларусь» і «Рэчыцкае юнацтва».

Аднак самым каштоўным у сваёй кнізе Анатоль Караленка лічыць 80 малюнкаў, аўтарамі якіх з'яўляюцца дзеці з Рэчыцкай школы-інтэрната для дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў. Здабыча нафты і экалагічныя праблемы, убачаныя вачыма маленькіх мастакоў, малюнкі, падказаныя сюжэтамі многіх казак пісьменніка-земляка, насамрэч дзівосна аздабляюць выданне. А пачынае кнігу пасланне Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта, які асабіста блаславіў аўтара на гэткую добрую справу.




«У казачнікаў дзяцінства ніколі не заканчваецца. Яны пазіраюць на навакольны свет дзіцячымі вачыма», — сказаў неяк даўні сябар Анатоля Караленкі пісьменнік Мікола Чарняўскі, які перакладаў творы Анатоля на беларускую мову, быў першым, хто адкрыў іх для нашага юнага чытача. І ён меў рацыю. Нават адпрацаваўшы ледзьве не тры дзесяцігоддзі ў вельмі сур'ёзнай галіне вытворчасці — нафтаздабычы, — Анатоль Караленка не перастаў заўважаць дзівоснае і патаемнае, цікавае і адметнае ў шмат якіх, здавалася б, звыклых і натуральных рэчах. Менавіта гэта і дазваляе пісьменніку ствараць такія незвычайныя казкі пра сапраўднае чорнае золата, на якое багатая наша рэчыцкая зямля, — нафту.

Новая кніга Анатоля Караленкі «Нафтаград» — гэта падарунак не толькі да юбілею Рэчыцы. Гэта — падарунак для ўсіх, хто на крылах фантазіі марыць пабываць у казачным свеце, дзе кожнага чакае шмат сапраўдных цудаў і адкрыццяў, для ўсіх, каго цікавяць таямніцы роднай зямлі, багатай на скарбы. А найперш — для вучняў і настаўнікаў, каму даўно прыйшліся даспадобы творы гэтага пісьменніка-казачніка, па якіх яны вучацца пазнаваць прыгожае ў жыцці, бяруць урокі дабрыні і любові да ўсяго зямнога, беражлівых і паважлівых адносін да прыроды, яе багаццяў, да людзей — сапраўдных чараўнікоў нашага краю.

# Творчымі крокамі…

**Ала ДАРАШЭНКА**

Безумоўна, выхад кнігі з друку — гэта заўсёды радасць, асабліва для маладых аўтараў, якія толькі пачалі крочыць у вялікі свет літаратуры. У чарговы раз Гомельская школа «Малады літаратар» пад кіраўніцтвам беларускай паэтэсы Ніны Шклявай прэзентавала кнігі маладых творцаў. Першымі ластаўкамі серыі «Бібліятэчка школы "Малады Літаратар"» сталі дзве кнігі: зборнік лірыкі Стасі Кацюргіной пад назвай «Парасон» і проза Сяргея Прывалава «Час Цмока». Вялікую дапамогу ў выданні гэтай серыі аказаў Валерый Вятошкін.




Зборнік лірыкі «Парасон» Стасі Кацюргіной — гэта другая паэтычная кніга аўтаркі. Першая з назвай «Пад ветразем ранку» выйшла ў серыі «Аз — першая кніга паэта», заснавальнікам якой з'яўляецца паэт Іван Бісеў. «Парасон» — гэта яшчэ адзін творчы крок па літаратурнай дарозе. Лірыка пад вокладкай гэтага зборніка рамантычная, багата напоўненая пачуццём кахання. Стася стварыла ў вершах свой адметны свет, размаляваны яскрава як радасцю, так і сумам.




А вось зборнік прозы «Час Цмока» Сяргея Прывалава — першая яго кніга. Зборнік складаецца з дзвюх частак: у першай змешчаны творы на рускай мове, а ў другой — пераклады гэтых апавяданняў на беларускую. Ганна Новік пераклала аповесць «Час Цмока», а апавяданні «Замест няшчасця» і «Незаўважная страта» ўзялася перастварыць Марыя Булавінская.

Ніна Шклярава з'яўляецца рэдактарам першых кніг серыі «Бібліятэчка школы "Малады літаратар"». Дзякуючы ёй ідэя стварэння «Бібліятэчкі…» увасобілася ў жыццё і працягвае развівацца.

Застаецца пажадаць творчага натхнення аўтарам школы «Малады літаратар». Хай наперадзе іх чакае шэраг новых прэзентацый.

# Пошукі шчасця
## (Казка)

У невядомым каралеўстве, у тых мясцінах, дзе зямля была гіблая, чорная, дзе туліліся між узгоркаў маленькія вёсачкі, жыла дзяўчына, з твару непрыгожая, але вельмі добрая душой. Сяброўкі смяяліся з яе, кпілі. І не было ёй з кім пажартаваць, пагутарыць, не было каму адкрыць душу, выліць свой боль і распавесці пра мары. А марыла яна шмат, верыла, што аднойчы з'явіцца нехта (чараўнік, фея, эльф), абавязкова з'явіцца і падорыць ёй прыгажосць, і тады пакахае яе той прынц, што прыязджаў да іх на кірмаш летам, тады яна таксама будзе шчаслівай, бо, як і сяброўкі, будзе мець простае шчасце — блізкасць каханых вачэй. І ёй больш не трэба будзе адзінокай рабінай плакаць ля крынічкі.

І вось аднойчы з'явіўся такі Нехта. Была гэта вельмі старая жанчына, жабрачка, якая сядзела ля царквы і прасіла міласціну. Калі дзяўчына праходзіла паўз яе, старая папрасіла скібачку хлеба. Але дзяўчына працягнула ёй не толькі хлеб, але і яйкі, і малако. Старая падзякавала і за дабрыню падарыла дзяўчыне чароўнае люстэрка, ды папярэдзіла, каб тая ніколі не рвала кветак, што растуць ля дарогі. Паглядзела ў люстэрка дзяўчына — прыгажуняй стала, усё навокал пасвятлела ад яе хараства.

І вырашыла яна выправіцца на пошукі свайго шчасця, а менавіта — у каралеўства, дзе жыў прынц. Па дарозе да сваёй мары сустракаліся ёй розныя выпрабаванні, але моцная сіла дабрыні, справядлівасці і шчырасці дапамагала ёй упэўнена ісці наперад. У дарозе сустрэла яна тую, якую стала называць сяброўкай, імя ёй было Зайздрасць. Кожны раз, калі дзяўчына глядзела ў люстэрка, яна прыгажэла. Нібы былінка пасля доўгага чакання дажджу, што разам з вільгаццю ўбірае ў сябе ўсе сокі жыцця, яна кожны раз убірала хараство і таямнічасць свету, але — што за дзіва! — цяпер кожны раз душа яе чарнела, даючы прытулак злосці і ненавісці. А аднойчы дарогу ёй перапыніў велізарны камень, які вызначаў два напрамкі: улева, дзе чакала шчасце; управа, да каралеўства прынца. І пайшла яна ўправа, але ўжо не па каханне, а па ўладу, бо Зайздрасць нашаптала, што менавіта яна, дзяўчына, павінна ўладарыць.

Трапіўшы ў каралеўства, яна з дапамогай сваіх новых сяброваk Зайздрасці, Жорсткасці, Нянавісці захапіла ўладу і стала каралевай. А аднойчы захацелася ёй стаць прыгажэй за тыя кветкі, што раслі ля дарогі, і папрасіла каралева прынесці чароўнае люстэрка. Але калі дзяўчына зазірнула ў яго, то стала пачварнай і ўсё навокал пацямнела ад жаху. І тады яна закрычала, закружылася, нібы тая вар'ятка, разбіла люстэрка і без памяці ад болю і роспачы рвала прыгожыя кветкі. І рухнуў палац, мара стала бруднай і слізкай. У адзін момант апынулася яна ля сваёй сяброўкі крынічкі, праліла шчырыя слёзы, а ў сэрцы зноў з'явіліся пяшчота і дабрыня.

Мінуў час, і закахалася дзяўчына не ў прынца, а ў простага пастуха, які крануў яе сэрца жаласлівай і да болю знаёмай песняй. А была гэта песня сонца, малітва кахання. Хлопец таксама пакахаў дзяўчыну, пакахаў не за хараство твару, а за бясконцую дабрыню. Вянчалі гэта каханне ўрачысты гімн птушак, траў і лясоў.

А сярод самых прыгожых кветак ля дарогі сядзела старая жабрачка і ціхенька ўсміхалася.

**Юлія ЯКІМЧЫК**

# Вечны статус культурнай сталіцы

**Першую згадку пра Нясвіж звязваюць з 1223 годам, калі легендарны князь Юрый Нясвежскі браў удзел у бітве з мангола-татарамі на рацэ Калцы. Аднак невядома, ці мае гэтае прозвішча тапанімічнае паходжанне, ці яно проста сугучнае назве беларускага горада, самае ранняе дакументальнае ўпамінанне якога датуецца 1446 годам. Ды пакуль вучоныя сумняваюцца і высвятляюць сапраўдны ўзрост некаранаванай сталіцы ВКЛ, Нясвіж рыхтуецца адзначыць сваё 790-годдзе.**

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

Летась гэты прыгожы старажытны горад афіцыйна быў абвешчаны культурнай сталіцай Беларусі. Год мінуў — статус змяніўся. Фармальна. Бо насамрэч Нясвіж з яго ўнікальнай спадчынай, гісторыка-культурным музеем-запаведнікам, проста наканавана развівацца як асяродку высокай культуры і мастацкай творчасці. Вось што распавёў **намеснік старшыні Нясвіжскага раённага выканаўчага камітэта Аляксандр Майсеня:**

— Мінулы год, які прайшоў пад знакам «Нясвіж — культурная сталіца Беларусі», быў вельмі напружаны для нас. Адпаведная праграма распаўсюдзілася на жыццё ўсяго раёна, і ў яе межах ладзіліся тысячы самых розных мерапрыемстваў. Каля сямідзесяці буйных культурных акцый адбылося ў Нясвіжы. Гэта і найстарэйшы фестываль «Музы Нясвіжа», і таксама ўжо традыцыйныя «Вечары Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў». І семінар па праблемах захавання і выкарыстання спадчыны, праведзены пад эгідай ЮНЕСКА. І юбілейныя імпрэзы, прысвечаныя 130-годдзю Янкі Купалы ды Якуба Коласа. Да нас прыязджалі з канцэртамі сусветна вядомыя музыканты Уладзімір Співакоў, Юрый Башмет. Значнай і доўгачаканай падзеяй стала адкрыццё Музея-кватэры Міколы Сеўрука (выдатны беларускі мастак ХХ стагоддзя сорак апошніх сваіх гадоў пражыў у Нясвіжы, памёр у 1979-м; яго мемарыяльны куток існаваў у мясцовым гісторыка-краязнаўчым музеі. — **С. Б.**). Мастак пакінуў больш як тысячу прадметаў, што ўяўляюць сабой творчую і гістарычную каштоўнасць, і цяпер з'явілася магчымасць праз выстаўкі знаёміць з яго спадчынай усіх цікаўных. Вельмі важна, што ўдалося правесці капітальны рамонт Нясвіжскага гісторыка-краязнаўчага музея, збор якога налічвае больш як сем тысяч найцікавейшых экспанатаў, звязаных з нашым горадам.

Не пералічыць усяго, чым вылучалася культурная палітра Нясвіжа-2012. Ды і сёлета адбываецца нямала цікавага не толькі для жыхароў раёна, але і для шматлікіх гасцей, якіх прываблівае аднаўлёны палацавы ансамбль. Наплыў турыстаў вельмі вялікі, што вымушае паскараць вырашэнне галоўнай задачы: стварэнне належнай інфраструктуры. Пабудавана ўжо шмат стаянак, але іх не хапае для размяшчэння экскурсійнага ды транзітнага транспарту. А трэба думаць і пра экалогію. Дарэчы, ёсць дамоўленасць з бельгійскай фірмай, якая паставіць нам электрамабілі для падвозу турыстаў ад аўтобусаў да радзівілаўскага парку. Праблема харчавання гасцей ужо не такая вострая: сёння ў Нясвіжы мы можам адначасова накарміць 800 чалавек. Наконт месцаў для пражывання... Тут дапамагае прыватны капітал. Вядзецца рэканструкцыя гасцініцы «Нясвіж» з дабудовай яшчэ аднаго паверха. На колішняй тэрыторыі ваенкамата з'явяцца два прыватныя гатэлі.



Падкрэслю, што ўпрыгожваюць і ўзбагачаюць жыццё горада фестывалі: тыя ж чэрвеньскія «Вечары Вялікага тэатра...», веснавое свята «Майскі вальс». Радасным хваляваннем, новымі пачуццямі напаўняюць нас штогадовыя сустрэчы з «Музамі Нясвіжа». За гэта трэба аддаць належнае Надзвычайнаму і Паўнамоцнаму Паслу Беларусі ў Літоўскай Рэспубліцы і Фінляндыі Уладзіміру Дражыну, які стаяў ля вытокаў праекта і амаль 20 гадоў таму, працуючы на пасадзе старшыні райвыканкама, падтрымаў ініцыятыву маэстра Міхаіла Фінберга: вынікам стаў унікальны фестываль — візітная картка не толькі рэгіёна, але і ўсёй краіны. І між іншым, «Аношкаўскія музыкі», вядомы калектыў Нясвіжчыны, узгадваны на рэпертуары фестывальных канцэртаў і стараецца на ўзорах мастацтва выхоўваць моладзь. «Музы Нясвіжа» неўпрыкмет фарміруюць культурнае асяроддзе. Заўважана, што за апошнія 6 гадоў у нашым горадзе значна знізілася падлеткавая злачыннасць: пад уплывам высокай музыкі людзі шукаюць альтэрнатыву бяздумнаму баўленню часу, цягнуцца да творчасці. Дарэчы, у пераабсталяваным былым клубе вайсковай часці мы адкрыем Маладзёжны цэнтр, неабходны новым пакаленням нясвіжцаў для паўнавартаснага развіцця.

Неўзабаве адзначым 790-годдзе першай згадкі пра Нясвіж. Свята плануем правесці ў знамянальны для ўсёй краіны дзень, 3 ліпеня. Чакаем гасцей, у тым ліку каля сотні прадстаўнікоў гарадоў-пабрацімаў Нясвіжа: з Германіі, Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны... Пастараемся, каб атрымалася ўрачыста, гожа і каларытна.

# «Школьны тэатр» у Віцебску: жыве!

Тэатр пачынаецца з вешалкі. Або з грымёркі. Або калі рэжысёр чытае новую п'есу. Пасля прагляду конкурсных спектакляў сцэнічных чытанняў «Школьны тэатр-17», якія прайшлі ў Коласаўскім тэатры, падумалася інакш. Тэатр пачынаецца са шчырага імкнення юных аматараў стаць акцёрамі, адчуць унікальную атмасферу сцэны, дакрануцца да прафесійнага мастацтва. Задача дарослых — падтрымаць цікавасць маладых. Але выканаць такую задачу няпроста.

## ЖЫВУЦЬ НА СЦЭНЕ

Сёлета на конкурс, які адбыўся ў Віцебску ў 17-ы раз, патрапіла 8 спектакляў. Асноўная ўмова выканана: аматарскія калектывы выкарысталі для пастановак беларускі літаратурны матэрыял. Янка Купала, Уладзімір Караткевіч, Васіль Быкаў, Аляксей Дудараў, Георгій Марчук, Людміла Рублеўская, Анатоль Дзялендзік… На пляцоўцы тэатральнай гасцёўні смяяліся і плакалі, жартавалі і разважалі на дарослыя тэмы дзеці. Яны падкуплялі сваёй шчырасцю і неверагодным жаданнем выступіць як мага лепей. Словамі герояў выказвалі са сцэны сваё стаўленне да жыццёвых праблем, адчувалі і жылі.

Галоўны прыз сцэнічных чытанняў атрымаў калектыў віцебскай гімназіі № 2 (кіраўнік Эла Петрачэнка) за спектакль «Раскіданае гняздо» паводле аднайменнай драмы Янкі Купалы. Першае месца падзялілі ўзорная тэатральная студыя «Дарослыя дзеці» віцебскай гімназіі № 8 (кіраўнік Аляксандра Раманава) за спектакль «Калі заспявае певень» паводле п'есы Г. Марчука і ўзорны драматычны калектыў «ТэСт» СШ № 4 г. Віцебска (кіраўнік Галіна Мароз) за спектакль «Развагі пра жыццё» паводле «Старадаўняй казкі» Ю. Куліка. Другія месцы журы аддало віцебскаму калектыву «Прэм'ера» Цэнтра дадатковай адукацыі Кастрычніцкага раёна (кіраўнік Наталля Шлімакова) за спектакль «Брык і Шуся шукаюць лета» паводле казкі Т. Сівец і мясцоваму калектыву «Крыніцы» СШ № 31 (кіраўнік Людміла Купчанка) за спектакль «Трэба жыць…» паводле п'есы «Радавыя» А. Дударава. На трэцім месцы — калектывы віцебскіх сярэдніх школ № 46 (кіраўнік Ірына Салаўёва) за спектакль «Осы» А. Дзялендзіка і № 28 (кіраўнік Зоя Таранеўская) за спектакль «Балота» паводле аповесці Васіля Быкава. Многія юныя акцёры атрымалі асобныя прызы за лепшае выкананне роляў.

## ЭФЕКТ ЁСЦЬ

Дырэктар-мастацкі кіраўнік Коласаўскага тэатра, старшыня журы конкурсу Валерый Анісенка ўпэўнены, што сцэнічныя чытанні бяруць на сябе вельмі адказную, прынцыповую задачу: «Трэба развіваць асобу, а асоба — гэта абавязкова вертыкаль. Імкнуцца ўвысь, да духу, да вышынь і адначасова да глыбінь, да традыцый і доследу папярэднікаў. Уверх — да Бога. Гэта штодзённая праца, якую робяць нашы калегі, педагогі, кіраўнікі тэатральных калектываў».

«Школьны тэатр» распачынаўся яшчэ ў 90-я гады як пошук маладых таленавітых акцёраў для Коласаўскага і паступова імкнуўся да статусу рэспубліканскага фестывалю. Аднак праз недахоп сродкаў і зацікаўленых людзей ператвараўся ў гарадскі конкурс школьных тэатраў.

Многія вядомыя сёння артысты бралі ўдзел у сцэнічных чытаннях у Віцебску. Яўген Бераснеў працуе цяпер у Коласаўскім тэатры, Арцём Бародзіч — у Купалаўскім, Вольга Скварцова — у Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі. Значыць, ёсць эфект, карысць. А ці ёсць будучыня?

## І СРОДКІ, І КАМАНДА

Сёння найбольшыя высілкі па арганізацыі і фінансаванні сцэнічных чытанняў бярэ на сябе тэатр. Суарганізатарамі конкурсу з'яўляюцца аддзелы культуры і адукацыі Віцебскага гарвыканкама, але і яны не маюць магчымасці аказваць неабходную фінансавую падтрымку. Дзе шукаць дапамогі? У тых жа дзяржаўных установах, іншых тэатральных калектывах, ініцыятыўных групах і ў валанцёраў, мецэнатаў ды спонсараў… Патрэбна і каманда, якая будзе апантана і



*Вучні гімназіі № 2 г. Віцебска Кацярына Рэзнічэнка і Міхаіл Васільеў у спектаклі «Раскіданае гняздо».*

сістэматычна займацца справай «Школьнага тэатра». Пры такіх умовах конкурс можа аднавіць статус рэспубліканскага. Прынамсі, Валерый Анісенка адзначыў, што прыкладзе ўсе намаганні, каб рэалізаваць гэтую мэту.

Але не ўсе згодны, што сцэнічныя чытанні павінны пашыраць межы. Прафесар мастацтвазнаўства Таццяна Катовіч (сёлета яна выступала ў якасці намесніка старшыні журы) упэўнена, што «Школьны тэатр» павінен захаваць камернасць, а значыць і своеасаблівую прыгажосць, якую мае сёння. Тым больш што ўся гісторыя сцэнічных чытанняў звязана з асобай Святланы Дашкевіч, літаратурнага рэдактара Коласаўскага тэатра.

Што ж думае на гэты конт сама Святлана Дашкевіч, якая стаяла ля вытокаў «Школьнага тэатра»?

— Баюся, той, хто атрымае сцэнічныя чытанні ў спадчыну, пастукаецца ў дзверы розных устаноў, а потым скажа: «Ну нашто нам гэта патрэбна?» Можа, згодзіцца падтрымаць гарадскі аддзел адукацыі, але на перыферыі, у адной са школ, і гэта будзе зусім іншы імпэт. Юныя выканаўцы мараць выйсці на сцэну менавіта ў тэатры.

Унікальнасць «Школьнага тэатра» як культурнай з'явы ў Беларусі аспрэчыць складана. А развіць яе яшчэ складаней. Аднак той, хто не плануе вялікага, не дасягне і меншага. Калі б вы ўбачылі, як іграюць юныя акцёры, як гараць іх вочы, то не задавалі б пытанняў пра неабходнасць правядзення сцэнічных чытанняў. Пакуль што «Школьны тэатр» жыве. Надзеямі. Спадзяваннямі.

## ЦІ БУДЗЕ РАЗВІВАЦЦА? ВЫРАШАЦЬ НАМ

**Вячаслаў Грушоў, рэжысёр «Школьнага тэатра», заслужаны артыст Беларусі:**

— Я заўсёды з хваляваннем падыходжу да сцэнічных чытанняў. Не ад таго, што займаюся тут рэжысурай, — я хачу ўбачыць, чым дыхае сучасная моладзь. Мы, дарослыя, жывём у сваім свеце і не ведаем, як жывуць маладыя. Што іх цікавіць, што іх хвалюе, як яны ставяцца да жыцця? А калі працуеш з імі, пачынаеш разумець.

**Зоя Таранеўская, кіраўнік тэатральнага калектыву СШ № 28 г. Віцебска:**

— Школьнаму тэатру нестае маладзёжнага рэпертуару для пастановак, каб уздымаць праблемы, якімі жывуць школа, моладзь. Мы ставім творы аўтараў, якія пісалі на тэмы, вельмі далёкія ад сучаснай моладзі. А іх сёння хвалюе пошук сэнсу жыцця, захапленні камп'ютарам, інтэрнэтам. Жыццё дзяцей павінна выходзіць на сцэну, але пакуль такога рэпертуару няма. І я лічу гэта вялікай праблемай.

**Аляксандр ЗАМКОЎСКІ, памочнік мастацкага кіраўніка Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа**

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

## *Слова краязнаўцы*



**Ларыса РОГАЧ, настаўніца гісторыі, з 2003 года кіраўнік народнага музея Смаргонскай гімназіі, распавядае пра тое, як сённяшнія вучні захоўваюць памяць пра герояў вайны:**

— Сёлета наш музей адзначыў 25-годдзе з дня адкрыцця. Ганаровае званне «народны» яму надалі ў 1997 годзе. Першым яго кіраўніком была настаўніца рускай мовы і літаратуры Таісія Муская, якая арганізавала ўлік фондаў, зрабіла ўсё магчымае, каб забяспечыць захаванне музейных калекцый у фондасховішчы. Экспазіцыі фарміраваліся і пашыраліся з дапамогай вучняў, выкладчыкаў, выпускнікоў гімназіі, ветэранаў. Пры музеі працуе патрыятычны клуб «Нашчадкі».

Няма ў нашым краі мясціны, дзе б не было напаміну пра вайну. Падзеям Вялікай Айчыннай і партызанскаму руху на Смаргоншчыне прысвечаны дзве выстаўкі. Даўнія і трывалыя стасункі падтрымліваюцца з ветэранамі 3-га гвардзейскага сталінградскага механізаванага корпуса, байцы якога вызвалялі наш горад ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў разам з беларускімі партызанамі ў ліпені 1944 года. Хвалюючыя ўспаміны былых удзельнікаў баёў пра перажытае, асабістыя рэчы з адзнакамі тых падзей, вайсковыя карты сталі каштоўнымі экспанатамі музея. Кранальная сустрэча з ветэранамі-гвардзейцамі адбылася падчас святкавання 65-й гадавіны вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Перапіску часта падтрымліваюць дзеці былых воінаў.

Вось і днямі прыйшоў ліст з Саратаўскай вобласці ад дачкі камісара партызанскага атрада імя Будзённага Мікалая Чэракаева. Алена Мікалаеўна хоча перадаць у дар нашаму музею баян, які падарылі яе бацьку ў 1944 годзе. А не так даўно сын Мікалая Міхайлюка, камісара гэтага атрада, наведаўся ў Смаргонь са спецыяльнай місіяй — перадаць гімназічнаму музею кнігі, часопісы, у якіх занатаваны ўспаміны пра дзейнасць партызанскай брыгады, і дыскі з запісамі ўспамінаў Мікалая Мікалаевіча, зробленымі незадоўга да яго смерці.

Паглыбіць веды пра малавядомыя старонкі гісторыі дапамагаюць пошукавыя экспедыцыі, навуковыя даследаванні, матэрыялы якіх агучваюцца на вучнёўскіх навукова-практычных канферэнцыях. Штогод ладзяцца так званыя зорныя паходы па мясцінах партызанскіх стаянак і маршрутах, якімі рухаліся вайсковыя злучэнні. Вынікам такіх вандровак па родным краі, што спрыяюць патрыятычнаму выхаванню гімназістаў, становяцца фотаальбомы, апісанні помнікаў гісторыі, турыстычных маршрутаў, запісы ўспамінаў цікавых людзей. На аснове сабраных матэрыялаў афармляюцца выстаўкі, выдаюцца буклеты. Напісана некалькі даследчых работ, якія былі прадстаўлены на абласныя і рэспубліканскія маладзёжныя навуковыя канферэнцыі.

Актывісты гісторыка-патрыятычнага клуба «Нашчадкі» супрацоўнічаюць з грамадскай арганізацыяй рэспубліканскага фонду «Халакост», музеем гісторыі і культуры яўрэяў Беларусі. Мы бралі ўдзел у міжнародным праекце «Халакост у Смаргоні і Франкфурце-на-Майне». На абласным злёце, які ладзіўся сёлета ў Любчы, наш музей атрымаў сертыфікат народнага музея, яшчэ раз пацвердзіўшы адпаведнасць гэтаму ганароваму званню.

## *Музейны ўнікат*

# Малюнкі партызанскага мастака

**У Пухавіцкім раённым краязнаўчым музеі ўвагу наведвальнікаў заўсёды прыцягвае зала, прысвечаная партызанскаму мастаку Генрыху Бржазоўскаму. Ганаровы грамадзянін горада Мар'іна Горка за сваё творчае жыццё стварыў каля пяці тысяч малюнкаў і карцін, больш як сотня работ Генрыха Францавіча знаходзіцца ў мастацкай галерэі краязнаўчага музея.**

**Раіса МАРЧУК**

Нарадзіўся мастак у 1912 годзе ў Мінску. Калі працаваў мастаком-афарміцелем на адным са сталічных заводаў, заўважылі яго незвычайныя творчыя здольнасці і накіравалі вучыцца ў Віцебскі мастацкі тэхнікум, які таленавіты юнак паспяхова закончыў. На працягу некалькіх гадоў ён наведваў і студыю В. Медарава ў Мінску. Яшчэ да вайны ладзіў свае выстаўкі, у 1938 годзе ўдзельнічаў у I з'ездзе мастакоў Беларусі.

— Бацька мастака, разьбяр па дрэве, рабіў сталярку і разныя статуі ў Чырвоным Касцёле (святых Сымона і Алены) у Мінску, — распавёў дырэктар Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея Аляксандр Прановіч. — Жонка Генрыха Францавіча — Тацццяна, стаматолаг, наша зямлячка з вёскі Яснаўка Пярэжарскага сельсавета. Падчас вайны мастак разам з жонкаю змагаліся з ворагам у атрадзе імя Калініна. Тацццяна лячыла



*«Партызанка Ева Алейнік».*



*«Партызан Сенька Баркан».*

як партызан, так і мясцовых жыхароў. Генрых Францавіч не толькі змагаўся з ворагам, але і выпускаў насценную газету «Народны мсціцец», зрабіў за партызанскі перыяд каля 150 малюнкаў. Частка гэтых работ захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, а штосьці, на жаль, незваротна страчана.

Некаторыя карціны мастака створаны ў рэчышчы сацыялістычнага рэалізму. Працаваў Генрых Бржазоўскі і ў ваенным жанры, у жанрах партрэта і нацюрморта (серыя «Паўднёвыя эцюды»). Гэтыя карціны характарызуюцца глыбокім псіхалагізмам, адчуваецца ўсебаковае пранікненне аўтара ў праблематыку твораў. Для яго работ характэрны дынаміка, мяккасць фарбаў. Генрых Бржазоўскі адносіцца да мастакоў рэалістычнай плыні, у 1996 годзе адзначаны прэміяй Міжнароднага фонду «Дзецям Чарнобыля». Пры жыцці мастака (памёр у 2006 годзе) у Мар'інай Горцы не раз праходзілі выстаўкі яго работ.

Малодшая дачка мастака Наталля ў вольны час таксама займаецца жывапісам, піша ў асноўным кветкі. Нават ладзіла ў Мар'інай Горцы выстаўку. Другая дачка — беларуская балерына Людміла Бржазоўская, народная артыстка БССР.

# Рызыкавалі ў імя жыцця

**Пры Польшчы ў Красным, непадалёк ад Маладзечна, жыла яўрэйская сям'я Гершоўскіх. Леаніда (Іюдэля) Абрамавіча ведалі як выдатнага ўрача-гінеколага, а яго жонку Лазу — як стаматолага. Іх прыгожы дом стаяў у цэнтры мястэчка. Абодва дактары карысталіся вялікай павагай сярод мясцовых жыхароў. У іх была светлавалосая дачка Ліля, амаль не падобная да яўрэйкі.**

**Сяргей СТАРЫКЕВІЧ**

Часта да Гершоўскіх прыходзіў з вёскі Мясата Ігнацій Сяргей, які нарыхтоўваў дровы, дапамагаў па гаспадарцы. Атрымліваў за гэта невялікія грошы, якія ў той час не так лёгка было зарабіць.

У пачатку вайны сям'ю Гершоўскіх, як і ўсіх яўрэяў з Краснага, змясцілі ў гета. Але так атрымалася, што і цяпер ім даводзілася даволі часта сустракацца з Ігнаціем Аляксандравічам. Справа ў тым, што яго дом у Мясаце стаяў якраз насупраць млына і моста праз раку Пісараўку, па якім яўрэяў вадзілі на працу ў лес. Людзі рухаліся павольна, таму калона моцна расцягвалася, а ахова была толькі наперадзе і ззаду. Вось гэтым і карысталіся яўрэі. Калі галава калоны была ўжо на мосце, а хвост быў яшчэ далёка, некалькі чалавек забягалі ў дом і прасілі хоць што-небудзь з ежы.

Па ўспамінах дачкі гаспадара Ніны, якой тады было 10 гадоў, у дом да Сяргеяў не раз забягаў хто-небудзь і з сям'і Гершоўскіх. Хаця самі гаспадары мелі дваіх малых дзяцей, заўсёды дзяліліся бульбай і хлебам — рызыкавалі ўсе: і самі яўрэі, і тыя, хто ім дапамагаў.

19 красавіка 1943 года ў Красным адбылося жудаснае забойства 2850 яўрэяў. Загінула і сям'я доктара Гершоўскага. З яе лёсам звязана адна таямніца. За нейкі час да расправы Гершоўскі ці то давядаўся нейкім чынам пра хуткае знішчэнне яўрэйскага гета, ці гэта простае супадзенне, але ён дапамог сваёй дачцэ Лілі і яшчэ аднаму маладому хлопцу выбрацца з гета. Ён накіраваў іх да Ігнація. Такім чынам Ліля з хлопцам апынуліся ў Мясаце. Але ўвесь трагізм сітуацыі заключаўся ў тым, што ў доме Ігнація знаходзіліся на пастоі немцы. Што рабіць? Тады гаспадары вырашылі схаваць іх у маленькім крытым хляве, дзе трымалі авечак. У большым хляве стаяла карова, і кожны раз, калі яе даілі, давалі ўцекачам цёплага малака. Іншую ежу час ад часу гаспадыня насіла з хаты.

Такім чынам яўрэйскія дзеці прабылі там недзе каля двух-трох тыдняў. Але адзін з немцаў прасачыў за гаспадыняй. На шчасце, гэта быў Франц, які даволі добра ставіўся да сям'і. Ён папярэдзіў, што калі хто з немцаў убачыць яўрэяў, расстраляюць усіх.

Тады гаспадар прымае рашэнне пераправіць дзяцей у Маладзечна да святара Свята-Пакроўскай царквы, з якім быў знаёмы і не раз сустракаўся на набажэнствах. Што гэта быў за святар, цяпер можна хіба што здагадвацца. Але калі ўлічыць той факт, што з 1937 года ў гэтай царкве настаяцелем быў Мікалай Гоман, а з 1941 года другім святаром стаў 27-гадовы выпускнік багаслоўскага факультэта Варшаўскага ўніверсітэта іерэй Авенір Білеў, то менавіта нехта з іх і прыняў у сябе падлеткаў.

Ігнацій падчас прымусовых работ быў моцна скалечаны. У пачатку ліпеня 1944 года да Мясату немцы падпалілі. Згарэла і хата Сяргеяў. Вярнуўшыся на папялішча, спрабавалі выратаваць хоць штонебудзь з нажытага. Немцы сагналі мясцовых жыхароў у адзіны ацалелы будынак і падперлі дзверы. Людзі думалі, што іх таксама будуць паліць. Але ворагу было ўжо не да гэтага. Вакол ішлі баі. Назаўтра жыхароў Мясаты выпусцілі і загадалі ісці па дарозе ў бок Маладзечна. Адышоўшы колькі кіламетраў, людзі пачалі пацяху разбягацца.

Ігнацій хадзіў на мыліцах і не мог схавацца ў жыце. Тады вырашылі: будзь што будзе — і затаіліся ў варонцы ад бомбы непадалёк ад шашы. Увесь час побач прабягалі адступаючыя немцы, але іх не чапалі. Прасядзеўшы дзень і ноч, раніцай пачулі рускую гаворку — прыйшлі нашы. Вярнуліся дамоў. Нейкі час жылі ў будане. Калі зраслася паламаная нага, Ігнацій пачаў будаваць новую хату на тым самым месцы, дзе стаяла старая.

Аднойчы, прыкладна ў 1953 годзе, гаспадары заўважылі, што за рэчкай насупраць іх дома спынілася нейкая жанчына і ўглядаецца ў іх бок. Яна быццам бы не магла пазнаць гэтае месца і не ведала, куды ісці. Нехта ёй падказаў, і яна рушыла да іх. Як аказалася, гэта была тая самая Ліля Гершоўская, якую яны хавалі ў сябе падчас вайны.

Яна ўжо скончыла інстытут — здаецца, медыцынскі — і выправіла прыехаць да сваіх збавіцеляў. Ліля распавяла, што праз нейкі час таго хлопца, які быў разам з ёю, немцы ўсё ж такі схапілі і расстралялі. Каб было лягчэй выратаваць Лілю, маладзечанскі святар, з яе згоды, ахрысціў дзяўчынку ў праваслаўную веру. Хаця і яна, і святар добра ведалі, што, калі б немцы ўсё ж яе злавілі, гэта не выратавала б ні яе, ні яе збавіцеля.

# Сустрэнемся на радзіме!

**Цёплыя абдымкі, пацалункі, слёзы радасці ад сустрэчы, не паверыце, нават на вачах мужчын… Нібыта вялікая сям'я сабралася пасля доўгага расстання. І сапраўды, жыхароў вёскі Леванова, што на Барысаўшчыне, можна лічыць сям'ёй: зямля аб'ядноўвае. Тут вось ужо трэці год запар праходзіць Свята вёскі, вечар-сустрэча землякоў.**

**Марына ВЕСЯЛУХА**

Сама вёска Леванова вядомая з сярэдзіны XIX стагоддзя. Калісьці, разам з цэнтрам у Аздзядзічах, гэта была вотчына царскай сям'і Раманавых. Неяк у наваколлях Аздзядзіч выпалілі лес. Так утварыліся новыя прыдатныя для жылля і апрацоўкі землі — злева ад цэнтра, так званая «Левая Ноў». Адсюль і назва вёскі — Леванова. Адпачатку гэта быў хутар, але ў 1920-х гадах адбылося актыўнае засяленне земель і ўтварылася вёска. Паступова быў створаны калгас, пабудаваная школа. А тутэйшая бібліятэка сёлета ўжо адзначае сваё 60-годдзе. Чытачоў тут не так шмат, як калісьці (летапіс бібліятэкі фіксуе: «У 1960 годзе было 480 чытачоў»), але просты цагляны дамок застаецца сапраўдным цэнтрам культуры. Больш за тое, у 2008 годзе да функцый непасрэдна бібліятэкі дадаліся функцыі музея народнай творчасці і побыту.

І музей сапраўды выдатны. Апроч зусім не рэдкіх для вёскі прадметаў — посцілак, дываноў і вышыванак — тут можна пабачыць і сапраўдныя ўнікаты. Гэта старыя самавар, гармонік, прадметы вясковага побыту, драўляныя прылады працы, касцюмы, а таксама ўнікальная выява «Тайная вячэра», аддрукаваная ў Маскве ў канцы XIX ст., толькі падумаць — амаль равесніца вёскі!

— Гэты абраз нават хацелі ў нас скрасці, — распавядае дырэктар бібліятэкі-музея Марыя Несцяровіч. — Ён стары, і тут ёсць упрыгожанне «золатам» — напэўна, злодзеі думалі, што яно сапраўднае.

Але не толькі прадметы можна лічыць адметнымі рысамі мясцовасці. Падчас Свята вёскі ў гасцей была магчымасць пакаштаваць новыя (а для ураджэнцаў Леванова — родныя) стравы — перапечкі (своеасаблівыя пышкі з тварагом), духмяны хлеб з печы, а таксама хлебны квас. Марыя Савіч з Леванова гатуе яго паводле ўласнага рэцэпту: хлеб высушваецца ў печы, заліваецца вадою, настойваецца цягам тыдня, а затым дадаецца цукар.

Леванова слаўнае і сваімі ўраджэнцамі. Госцем свята стаў Міхаіл Шчэрба, двойчы воін-інтэрнацыяналіст, які ваяваў на Кубе і ў Афганістане, у гэты дзень ён быў узнагароджаны Памятным ордэнам салдацкай славы. Міхаіл Іванавіч у сваім прывітальным слове адзначыў:

— Вельмі прыемна сустракацца з землякамі, гутарыць, успамінаць… Калі я сюды прыязджаю, то заўсёды ўспамінаю дырэктара школы, сваю першую настаўніцу, класнага кіраўніка. Сапраўды, яны нас скіравалі на шлях, якога і сёння мы трымаемся, дзейнічаем так, як нас навучыла першая настаўніца. Прыемна слухаць цёплыя словы пра людзей, якія пачалі свой шлях у нашай вёсцы. Гэта і настаўнікі, і медыкі, і лётчыкі. Здавалася б, простая беларуская вёска, але сярод яе выхадцаў шмат таленавітых, адукаваных людзей.

Сярод землякоў-леваноўцаў на свяце прысутнічала і першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч. Лілія Станіславаўна прызналася:

— Мне даводзіцца шмат дзе бываць і шмат выступаць з прамовамі, але столькі хвалявання, як тут, я нідзе не адчуваю. Толькі перад вамі, сваімі землякамі, я хвалююся, памятаючы, што кожны з вас унёс свой уклад у станаўленне асоб, якія тут нарадзіліся і выраслі. Мы помнім, якой была наша вёска калісьці. Надзвычай прыемна, што мы адзначаем ужо трэцяе свята і на сустрэчы збіраецца ўсё больш і больш землякоў.




*Выступае Лілія Ананіч.*

Добрым падарункам вёсцы і бібліятэцы ад міністэрства інфармацыі краіны сталі кнігі, а клубу «Субацея», які працуе пад кіраўніцтвам Марыі Несцяровіч, — музычны цэнтр. Лілія Станіславаўна выказала таксама спадзяванне, што ў хуткім часе ў дадатак да энцыклапедыі «Гарады і вёскі Беларусі. Мінская вобласць» прадставіць жыхарам роднай вёскі кнігу «Леванова», дзе будуць звесткі пра кожнага з землякоў.

Натуральна, падчас свята гучала і шмат успамінаў — пра вечарынкі ў хатах, гарманіста, які граў добра, але аднойчы так разззлаваўся, што аж гармонік парваў, пра паездкі ў Барысаў на параходзе…

Госці-землякі выказалі спадзяванне, што свята вёскі, якое ўжо традыцыйна арганізуецца Барысаўскай цэнтральнай раённай бібліятэкай імя І. Х. Каладзеева і Леваноўскай бібліятэкай-музеем народнай творчасці і побыту, стане штогадовым. А пакуль ад сёлетняй сустрэчы яшчэ ёсць сілы, натхненне і кветкі з Леванова, якія для ўраджэнцаў гэтай вёскі даражэйшыя за крамныя — бо пахнуць Радзімай.

# Герой бессмяротны, пакуль пра яго помняць



*Зінаіда Самсонава.*



*Аскольд Власаў.*

**Не адно пакаленне школьнікаў выхоўвалася на прыкладах герояў Вялікай Айчыннай вайны, якія загінулі падчас вызвалення пасёлка Азарычы Калінкавіцкага раёна.**

**Раіса МАРЧУК**

Званне Героя Савецкага Саюза Зінаіда Самсонава, санінструктар 1-га стралковага батальёна, які ўваходзіў у склад 218-й Рамадана-Кіеўскай стралковай дывізіі, атрымала за ўдзел у фарсіраванні ракі Днепр. Пад мінамётным і кулямётным агнём праціўніка дзяўчына вынесла з поля бою 30 параненых. Заўважыўшы пяцярых нямецкіх салдат, што прабіраліся праз хмызнякі, не разгубілася і, узяўшы аўтамат, забіла двух немцаў. Астатнія, не прыняўшы бою, зніклі.

— 27 верасня 1943 года ў раёне вёсак Сушкі і Пекары Канеўскага раёна (Украіна) гітлераўцы пайшлі ў атаку, — распавяла кіраўнік школьнага музея Азарыцкай сярэдняй школы Вера Навіцкая. — Некалькі разоў нашы байцы хацелі прымусіць праціўніка адступіць, але кожны раз шквальны агонь немцаў спыняў іх. Тады Самсонава, схапіўшы аўтамат і гранаты, кінулася на ворагаў. За ёю рванулі байцы — не маглі ж мужчыны заставацца ў акопах. За гэты подзвіг Зінаіду прадставілі да звання «Герой Савецкага Саюза». Але пакуль узнагародны ліст «падарожнічаў» па інстанцыях, дзяўчына загінула. Так і не даведалася пра прысваенне ёй высокага звання. Імя Зінаіды Самсонавай носіць адна з вуліц Азарыч. Яе імя прысвоена піянерскай дружыне тутэйшай школы.

Вялікую цікавасць у навучэнцаў выклікае і подзвіг старшага лейтэнанта-артылерыста Аскольда Власава, які, карэкціруючы агонь нашых батарэй, выклікаў агонь на сябе і пагеройску загінуў. У капсуле пасля знайшлі запіску: «Дарагія таварышы! Мне не давялося дажыць да Перамогі. Адпомсціце за мяне. У Дзень Перамогі ўспамінайце пра мяне. Бывайце!» Захаваліся і лісты Аскольда да брата. «…Мы з баямі прасоўваемся наперад. Учора адбілі некалькі контратак з іх «тыграмі» і «фердынандамі». Не дапамагаюць ім ні яны, ні контратакі… Ужо лазім па балотах Палесся». Загінуў Власаў 26 студзеня 1944 года пры вызваленні беларускай зямлі.

Камандзір узвода аўтаматчыкаў 372-га стралковага палка Яўтропій Раманаў сапраўды нарадзіўся «ў кашулі». Ездавы санітарнай павозкі з суседняй дывізіі далажыў камусьці з камандзіраў 372-га: на прасецы падабралі лейтэнанта. Бачна, што прастрэлены наскрозь.

Асцярожна знялі параненага з павозкі. А на ім — ледзяны скафандр. Лейтэнант не гаварыў, хаця жыццё ў ім яшчэ цеплілася. Скрозь ледзяны панцыр былі бачны разарваныя кулямі фуфайка і ватныя штаны. Занеслі ў зямлянку, вызвалілі ад панцыра. Цуд! На целе — ні адной драпіны. Лейтэнанта хуценька расцерлі спіртам, прывялі ў прытомнасць і напаілі гарачым чаем. Яўтропій Раманаў жывым і здаровым дайшоў да Берліна.

— Падчас баёў за Азарычы ў студзені 1944 года быў збіты савецкі самалёт, які разам з лётчыкам упаў у балота, — распавядае далей Вера Уладзіміраўна. — Падчас меліярацыі выявілі рэшткі самалёта і астанкі пілота. Знойдзены бумажнік адправілі ў архіў Узброеных сіл СССР. Адтуль паведамілі, што лётчык Іваноў Ігнацій Яўцеевіч 1918 года нараджэння 16 студзеня 1944 года не вярнуўся з баявога задання і знік без вестак. Астанкі воіна перанеслі ў брацкую магілу. Пра месца яго гібелі і пахавання паведамілі родным.

У 1985 годзе падчас восеньскага ворыва былі знойдзены астанкі і бумажнік яшчэ аднаго воіна. Але яго імя невядома. З архіва нічога не паведамілі.

Неяк чырвоныя следапыты непадалёк ад вёскі Віша знайшлі ў дупле дрэва капсулу, а ў ёй — адрас загінуўшага лейтэнанта медыцынскай службы Антона Сніцарука. З архіва Узброеных сіл даслалі адрас яго родных, якім азарыцкія школьнікі і паведамілі, дзе пахаваны дарагі для іх чалавек.

Адважна ваявалі салдаты і афіцэры 685-га стралковага палка пад камандаваннем Героя Савецкага Саюза падпалкоўніка Андрэя Ніканава. Хоць вораг на рацэ Іпа ўпарта супраціўляўся, ён павёў у атаку свой полк і вызваліў вёску Навасёлкі. А 29 студзеня 1944 года на подступах да Азарыч быў смяротна паранены.

— Выпускнік нашай школы Міхась Ботка пасля заканчэння Лепельскага мінамётна-артылерыйскага вучылішча ў званні лейтэнанта трапіў на фронт. Пад горадам Белым на Калінінскім фронце ў снежні 1942 года ля вёскі Вялікая Шайтраўшчына быў моцны бой. Раніцай 5 снежня немцы, падцягнуўшы дадатковыя сілы і сканцэнтраваўшы на гэтым рубяжы каля 20 танкаў, перайшлі ў наступленне. Некалькі танкаў змагло прарвацца ў вёску. Адзін рушыў на агнявую пазіцыю мінамётнай роты. Лейтэнант Ботка падхапіў 82-міліметровую міну і, прыціснуўшы яе да звязкі гранат, кінуўся пад танк. Раздаўся магутны выбух. Цаной свайго жыцця прадухіліў гібель мінамётнай роты.

Даваенны выпускнік школы Аркадзь Шаблінскі прайшоў з баямі ўсю вайну, дайшоў да Прусіі, дзе і сустрэў Перамогу. Узнагароджаны чатырма ордэнамі Чырвонай Зоркі, двума ордэнамі Айчыннай вайны І і ІІ ступеняў, медалём «За баявыя заслугі». Пасля вайны паступіў у ваенна-тэхнічную артылерыйскую акадэмію імя Дзяржынскага (цяпер расійская Ваенная акадэмія ракетных войскаў стратэгічнага прызначэння імя Пятра Вялікага), з адзнакай закончыў яе і быў пакінуты выкладчыкам.

Амаль за чатыры дзесяцігоддзі Аркадзь Сямёнавіч падняўся па прыступках акадэмічнай іерархіі ад выкладчыка да начальніка кафедры, абараніў кандыдацкую дысертацыю, стаў доктарам тэхнічных навук, прафесарам. Выдаў больш як дзесяць навуковых прац, манаграфій, дапаможнікаў. Па яго падручніках дагэтуль вучацца курсанты. Узнагароджаны ордэнамі «Знак Пашаны» і «За службу Айчыне», мае воінскае званне генерала-маёра.

— Шмат матэрыялаў захоўваецца ў нашым музеі, — зазначае Вера Навіцкая. — Ушанавана памяць удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, занатаваны іх успаміны. Ёсць матэрыялы пра пасляваенных выпускнікоў, пра настаўнікаў, а таксама матэрыялы па гісторыі школы і Азарыч. Усё гэта дапамагае выхоўваць у навучэнцаў пачуццё гонару за сваю Радзіму і яе гераічны народ. Кажуць, што героі не паміраюць. Гэта не зусім так. Нават герой губляе сваю бессмяротнасць, калі сучаснікі забываюць пра яго.



*Яўген Шунейка «І. М. Лучанок».*

# Кампазітар з вялікай літары

**Дзякуючы народнаму артысту Беларусі і СССР, кампазітару Ігару Лучанку песні «Мой родны кут», «Спадчына», «Алеся», «Вераніка» ведаў увесь Савецкі Саюз. Праз два месяцы, 6 жніўня, у Ігара Міхайлавіча юбілей — 75 гадоў з дня нараджэння. Сёння на рахунку беларускага творцы некалькі соцень песень.**

Мабыць, не ўсе ведаюць, што пухавіцкая зямля, а дакладней, Мар'іна Горка, стала для творцы другой радзімай. Ігар Міхайлавіч нарадзіўся ў Мінску. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны яго бацька Міхаіл Лукіч здолеў эвакуіраваць сям'ю ў Растоўскую вобласць, у горад Сальск. Жонка з сынам нават некалькі дзён пабывалі пад акупацыяй. На шчасце, горад хутка вызвалілі.

У 1946 годзе яны вярнуліся ў Беларусь, і бацька пачаў працаваць урачом у чыгуначнай амбулаторыі на станцыі Пухавічы. У гарадку, непадалёк ад вакзала, ім далі жыллё, а потым Міхаіл Лукіч перавёз з вёскі хату бацькі і паставіў яе па вуліцы Фрунзэ ў Мар'інай Горцы.

— З маленства ў Ігара Лучанка выявіліся музычныя здольнасці, — распавядае дырэктар Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея Аляксандр Прановіч. — Дарэчы, яго бацька таксама быў музыкантам, у маладыя гады працаваў скрыпачом у аркестры Дзяржаўнага тэатра пад кіраўніцтвам Уладзіслава Галубка. Маці хлопчыка, які не меў магчымасці сур'ёзна вучыцца музыцы ў Мар'інай Горцы, доўга не думаючы, кідае працу і разам з сынам пераязджае ў Мінск, наймае кватэру. Хлопчыка з правінцыі прымаюць у музычную школу пры оперным тэатры, якую ён паспяхова скончыў і адразу паступіў у Рэспубліканскі ліцэй пры Беларускай кансерваторыі па класе кампазіцыі. Потым была Беларуская кансерваторыя, праца па размеркаванні ў Гомелі. Прадоўжыў вучобу ў Маскоўскай і Ленінградскай кансерваторыях.

Дзякуючы такой грунтоўнай падрыхтоўцы талент Ігара Міхайлавіча раскрыўся ў поўнай меры: у 1966 г. ён атрымлівае І прэмію на Усесаюзным конкурсе савецкай песні. У той час цесна супрацоўнічае з «Песнярамі» (быў блізкім сябрам Уладзіміра Мулявіна), Віктарам Вуячычам, паэтамі-песеннікамі Іванам Цітаўцом і Міхаілам Ясенем.

— Ігар Лучанок разумеў, што неабходна зберагчы самабытнасць беларускай культуры, таму звярнуўся да твораў класікаў беларускай літаратуры, у першую чаргу да паэзіі Якуба Коласа, — зазначыў Аляксандр Прановіч. — Вось так і нарадзіліся знакамітыя песні, якія і сёння з задавальненнем выконваюць ужо маладыя спевакі. У Мар'інай Горцы — яго бацькоўскі дом, куды маэстра прыязджае з задавальненнем. Шмат песень ён прысвяціў нашаму гораду. Менавіта Ігар Лучанок выступіў ініцыятарам фестывалю народнай творчасці «Напеў зямлі маёй», які праходзіць раз на два гады. Восенню павінен адбыцца дзясяты. Месцу таму Мар'іна Горка ў другі раз прымала ўдзельнікаў рэгіянальнага фестывалю «Майскі вальс», падчас якога гучалі песні, напісаныя нашым земляком. Пераможцы творчага спаборніцтва атрымалі прызы ад Ігара Міхайлавіча.

Пра юбілей знакамітага творцы даведаліся мінскія мастакі, члены Беларускага саюза мастакоў Віктар Барабанцаў, Леанід Гоманаў, Мікалай Мішчанка і Яўген Шунейка, якія напярэдадні фестывалю «Майскі вальс» выставілі ў мастацкай галерэі Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея 40 карцін. Творцы адлюстравалі на сваіх палотнах прыгажосць беларускай прыроды, адметныя мясціны, якія натхнілі кампазітара на напісанне песенных твораў. Назвы карцін гавораць самі за сябе: «Радзіма Якуба Коласа», «Мінск», «Рака Цітаўка».

Да жніўня ў мастацкай галерэі будзе доўжыцца выстаўка, прысвечаная жыццю і творчасці Ігара Лучанка, ганаровага грамадзяніна Пухавіцкага раёна, гарадоў Мінска і Сальска. У Мар'інай Горцы мяркуюць адкрыць яшчэ адну выстаўку і прадставіць карціны, якія Ігар Міхайлавіч падараваў музею.

«Мы ганарымся, калі пад песні Ігара Лучанка ў выкананні нашых славутых «Песняроў» і «Сяброў» уздымаюцца шматтысячныя залы і падпяваюць беларускім мелодыям. Гэта даніна павагі да беларускай культуры, гэта даніна павагі таму слаўнаму часу, калі ўся вялікая краіна спявала нашы песні», — зазначыў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка, ацэньваючы творчасць нашага сучасніка, кампазітара з вялікай літары.

**Раіса МАРЧУК**

# Песні, далучаныя да вечнасці

**Паставіць на стужцы часу: «45 год таму» і перанесціся ў мінулае, каб паслухаць песні, якія спявалі жанчыны на Міёршчыне… Фантастыка? Рэальнасць! Цяпер такое падарожжа можна здзейсніць з дапамогай дыска «Пад ясну зарыцу: песенна-абрадавая традыцыя Міёршчыны па матэрыялах аўдыёкалекцыі С. Панізніка. Запіс 1968-69 гадоў». Кружэлка пабачыла свет у выдавецтве «Каўчэг», праект распрацавалі і падрыхтавалі Сяргей Панізнік, Таццяна Бярковіч, Сяржук Доўгушаў. Таму, як кажуць на Міёршчыне, запрашаючы госця ў хату, проша… да цёплай гутаркі са стваральнікамі гэтага праекта.**

Сяржук Доўгушаў, музыка і збіральнік фальклору, распавядае:

— Калі мае пражскія сябры Віталь Цімошчанка і Андрэй Гайко вырашылі прафінансаваць выданне дыска аўтэнтычных песень, я пачаў шукаць адметныя зборы. Сам у той час яшчэ не вандраваў, і было цікава знайсці даўнія запісы. Яны знайшліся у аўдыёкалекцыі Сяргея Панізніка, што захоўваецца ў кабінеце народнай музыкі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Тады ж захацелася зрабіць падарунак самому Сяргею Сцяпанавічу, каб людзі ўбачылі яго родны хутар Бабышкі — праз песні. Тут такі скарб! Думаю, дыск будзе цікавы не толькі ўсім беларусам, але і замежнікам.

Таццяна Бярковіч, кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт, загадчык кабінета народнай музыкі БДАМ, у адным са сваіх артыкулаў вартасць калекцыі Сяргея Панізніка акрэсліла наступным чынам: «Па адлюстраванні жанравага корпуса мясцовай традыцыі калекцыя Сяргея Панізніка з'яўляецца сапраўднай анталогіяй. У ёй раскрыты найбагацейшы пласт традыцыйнага сольнага і сумеснага спявання. Аўтар запісу імкнуўся максімальна поўна зафіксаваць усё, што захавала выдатная памяць спявачак… Адзінкавыя і тым больш каштоўныя ўзоры Каляды, Велікодныя “Хрыстос” і “Алялюя”».

Дарэчы, велікодная песня «Алялюя!» надзвычай доўгая, і веданне яе тэксту цалкам у маім родным Мілашове (таксама на Міёршчыне) з'яўляецца надзвычай станоўчай якасцю асобы, асабліва каштоўная гэтая якасць падчас абраду валачавання. Сам збіральнік песень, паэт і журналіст Сяргей Панізнік на маю заўвагу адказвае так:

— Асабліва шанавальнымі людзьмі былі тыя, хто ўздымаў песню да рытуальнага гучання. Яны былі маліцьвеннымі людзьмі. Калі «Хадзіў у Хрыстос» (на другі дзень пасля Вялікадня), з асаблівай пашанотай успрымаўся Пачынальнік — Андрыян Кісляк. «Сем разоў за суткі падыходзілі да ваконца», — гэта значыць спешкі для заробкаў не магло быць: кожнаму гаспадару, дому — свая ўвага. І да кананічнага




тэксту далучаліся канкрэтныя зычэнні-ўхваленні: «Каб у тваім дварку — як у Райку!» Раёк, як я мяркую, не ў сэнсе раю: Раёк — гаспадар ураджайнасці, дабрабыту, яшчэ адзін Жыцень).

Распавёў Сяргей Сцяпанавіч і гісторыю з'яўлення гэтай унікальнай калекцыі песень:

— Я ўзяўся за магнітафон «Рамантык», бо паведамілі, што адправяць служыць як вайсковага журналіста аж у групу войскаў, — на далёкую чужыну. Таму набіраўся беларускасці — і ў песенным маўленні. Што на хутары Бабышкі ўлезла ў душу? Не толькі поклічы кнігавак, шчэбеты ластавак, Алялюя пад вакном і трапныя выслоўі, прыбабунькі. Неба над рэчкай Волтаю я запоўніў маўленнем-маленнем былых жыхароў, вярнуў для вызнання і адухаўлення страчаныя выдыхі Памяці.

А можа, нам толькі здаецца, што дыск настолькі каштоўны? Для Сяргея Сцяпанавіча тут гучыць голас родных Бабышак, голас яго маці. Мне, таксама ўраджэнцы Міёршчыны, чуюцца знаёмыя яшчэ з дзяцінства мелодыі. А для Сержука Доўгушава гэта багатая крыніца натхнення і новага музычнага матэрыялу. Каб расставіць у гэтых пытаннях усе кропкі над «і», я звярнулася да спецыяліста-практыка — кандыдата культуралогіі, дацэнта, загадчыка кафедры этналогіі і фальклору БДУКіМ Вячаслава Калацэя.

— Сорамна хадзіць па зямлі, у якой «спяць» продкі, і не ведаць іх спадчыны — трэба яе шукаць і далучацца, пераймаць. Больш за тое, для вывучэння фальклору Паўночнай Беларусі дыск надзвычай карысны, ён дае цэласнае ўяўленне пра яе спеўную сістэму, — разважае Вячаслаў Віктаравіч. — Калі песні вучаць метадам дэманстратыўнай антрапатэхнікі («слухаю — спрабую — пераймаю»), такія выданні немагчыма замяніць. Паколькі на дыску шмат калядных, купальскіх, валачобных песень, — гэта выдатны матэрыял для ўзнаўлення свят, а вясельныя і радзінныя — дапамога аматарам традыцыйных сямейных імпрэз.

Па сакрэце вам распавяду, што песня «Хадзіў раёк па ўсім полі» зусім хутка атрымае новае жыццё — у выкананні Сержука Доўгушава і гурта «Вурай». Гэтая жніўная песня, вельмі атмасферная, надзвычай спадабалася музыкам, і яны паспрабавалі выканаць яе, але крыху па-іншаму — больш казачна.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3000 рублёў
Наклад — 2726
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 20.06.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 2454
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686